



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

15 студзеня 2016 года №3 **(1081)**


конкурс "РГ"



## Чытачы "РГ" натхняюць сваімі гісторыямі здароўя

старонкі 20-21

## Былога начальніка Ашмянскай мытні прыгаварылі да сямі гадоў заключэння

старонка 2

## Якім быў палон у Першую і Другую сусветныя войны

Погляд салдата, які пабываў у палоне на абедзвюх войнах і на якога прыйшла пахаванка

старонка 13

## Як мяняўся заробак работнікаў адукацыі на працягу года

старонка 3

# Смяротны прысуд у Вілейцы. Першы сёлета ў Беларусі

### Асудзілі віляйчаніна, які збіў да смерці сужытніцу

Яго ўжо прыгаворвалі да смяротнага пакарання ў 1989 годзе. Але тады Вярхоўны суд па яго скарзе прысуд адмяніў. Смяротнае пакаранне замянілі на 15 год калоніі.

старонка 4

Фота richardbejah.com.

ПРАЕКТЫ

## У жніўні на Ашмяншчыне плануюць адкрыць парк мініяцюр

АШМЯНЫ

**Ахвотныя змогуць пабачыць макеты Мірскага, Навагрудскага, Лідскага, Крэўскага, Віленскага, Трокскага, Меднікаўскага замкаў.**

Беларускі парк мініяцюр уключае не толькі замкі Беларусі, за аснову ўзятыя межы Вялікага Княства Літоўскага.

– Многія беларускія замкі цяпер ляжаць у руінах, – расказвае арганізатар праекта **Аляксандр Варыкіш**. – Падчас гэтага праекта мы хочам паказаць турыстам і самім беларусам, як выглядалі замкі да таго часу, пакуль іх не пашкодзіў час. Ахвотныя змогуць проста пагуляць уздоўж замкаў альбо замовіць экскурсію і даведацца пра асаблівасці архітэктуры, пабудовы, гісторыю замкаў.

### Замкі будуць амаль у чалавечы рост

Арганізатары мяркуюць, што парк мініяцюр ажывіць турыстычны маршрут Крэва-Баруны-Гальшаны, які не карыстаецца цяпер папулярнасцю, прывабіць турыстаў з іншых краін.

– Многія мяркуюць, што парк мініяцюр зменшыць цікавасць да іншых замкаў, турыстам будзе цікавей і танней паглядзець усе замкі ў адным месцы, – разважае Аляксандр Варыкіш. – Я не згодны з такім меркаваннем, праект мае іншы фармат, накіраваны на тое, каб замкі былі ў гістарычным ракурсе.

Над паркам мініяцюр працуе архітэктар **Дзмітры Савельеў.** Плануюць, што ў красавіку пачнецца будаўніцтва замкаў. У жніўні яго плануюць адкрыць.

Парк мініяцюр размесціцца на адкрытым паветры недалёка ад Гальшанаў і хутара Радзевічы. Яго плошча два з паловай гектары. Замкі будуць амаль у чалавечы рост: маштабам 1:25, у вышыню каля паўтара метраў, па дыяганалі каля трох метраў.

– У парку мініяцюр мы плануем зрабіць альтанкі, дарожкі, пасадзіць прыгожыя газоны, – адзначае Аляксандр Варыкіш.

Праект рэалізуюць пры фінансавай падтрымцы праграмы развіцця ААН

Галіна СІНІЦА.

**Парк мініяцюр** – гэта асаблівы від музея пад адкрытым небам, у якім дэманструюцца зменшаныя копіі архітэктурных пабудоў, а таксама тэхнічных і прыродных аб'ектаў, напрыклад, горы.

У Беларусі былі спробы стварыць парк мініяцюр на Чыжоўскім вадасховішчы ў Мінску. Планавалі, што гэта будзе тэматычны парк "Беларусь у мініяцюры". Аднак праект не быў рэалізаваны.

Першыя прыватныя паркі мініяцюр з'явіліся каля 20 стагоддзя. Звычайныя макеты пабудоў служылі дэкорам для садовых чыгуначных дарог.

Першым агульнадаступным паркам мініяцюр стаў парк Беканскот (Вялікабрытанія). Ён быў адкрыты ў 1929 годзе.

У Савецкім Саюзе ў 1930 гадах парк мініяцюр разглядаўся, аднак так і не быў рэалізаваны, бо перашкодзіла Вялікая Айчынная вайна.

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

## Гаспадарчыя пабудовы на Лібава-Роменскай знясуць

МАЛАДЗЕЧНА

У бліжэйшы час жыхары дома №67 па вуліцы Лібава-Роменскай абавязаныя будуць вызваліць гаспадарчыя пабудовы ў двары.

Рашэнне аб зносе хлеўчыкаў у двары прыняў Маладзечанскі райвыканкам.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала начальнік жыллёвага аддзела "Камунальніка" **Вольга Шыцік**.

– Прычына зносу ў тым, што гэтыя хлеўчыкі былі незаконна пабудаваныя 10 гадоў таму. У бліжэйшы час домакіраўніцтва павінна будзе абвясціць жыхароў аб тым, каб яны вызвалілі гэтыя пабудовы ад сваіх рэчаў і гаспадарчыя пабудовы неўзабаве знясуць.

Нагадаем, што ў снежні на дзвярах дома з'явілася абвестка аб тым, што жыхары павінны вызваліць свае хлеўчыкі ад рэчаў.

Тады гэтае рашэнне выклікала ў жыхароў незадаволенасць, яны дамагліся прыёму ў райвыканкаме. Жыхарка дома **Жанна Вярбоўская** расказала тады "Рэгіянальнай газеце", што ў іх доме няма ні балконаў, ні падвалаў, таму іншага месца, каб захоўваць рэчы, няма.

Месяц таму ўлады абяцалі разгледзець гэтае пытанне.

Наталля ТУР.




З абвінавачанага суд пастанавіў спагнаць больш за 238 мільёнаў рублёў. Фота Аляксандра РУЖАЧКІ, "СБ – Беларусь сёгодня".

КАРУПЦЫЯ

# Начальніка Ашмянскай мытні прыгаварылі да сямі гадоў заключэння

АШМЯНЫ

**Былога начальніка Ашмянскай мытні прыгаварылі да сямі гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за карупцыйнае злачынства.**

Як паведамляе прэсслужба Вярхоўнага суда, Мінскі абласны суд 29 снежня вынес прысуд. Крымінальная справа была распачатая па абвінавачанні былога начальніка Ашмянскай мытні ў атрыманні хабару.

Прыгаворам суда абвінавачанага прызналі вінаватым у атрыманні матэрыяльных каштоўнасцяў выключна ў сувязі з займаемай пасадай. Таксама ў патуранні па службе і ў выкананні дзеянняў з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў у інтарэсах тых, хто даваў хабар.

Суд прызнаў вінаватым асобу, якая займае адказную пасаду, у паўторным хабары ў асабліва буйным памеры.

Былому начальніку Ашмянскай мытні суд прызначыў пакаранне – пазбаўленне свабоды на сем год з канфіскацыяй усёй маёмасці. З пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем адміністрацыйна-распарадчальных і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на пяць год. Яго пазбавілі спецыяльнага звання дзяржаўнага дарадчыка мытнай службы трэцяга рангу. А пакаранне прызначылі адбываць у выпраўленчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

**Суд пастанавіў спагнаць з абвінавачанага больш за 238 мільёнаў рублёў.**

Прыгавор у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны.

Аддзел інфармацыі.

ЭКАЛОГІЯ

## На 16 населеных пунктаў з нашага рэгіёна стала менш у ліку тых, што адносяцца да радыеактыўнай зоны

Гэта вынікае з апублікаванай пастановы Савета Міністраў №9, падпісанай 11 студзеня, і адпаведнага пераліку населеных пунктаў і аб'ектаў, якія ўваходзяць у зоны радыеактыўнага забруджвання.

Сярод паселішчаў, якія ўжо не ўваходзяць у зону забруджвання, значыцца аграгарадок Пяршаі на Валожыншчыне.

Рэдакцыя супаставіла папярэдні пералік, апублікаваны з аналагічнай пастановай, прынятай у 2010 годзе. З зоны радыеактыўнага забруджвання выведзеныя наступныя населеныя пункты нашага рэгіёна:

**Вілейскі раён:**

в. Ляскі
в. Сцебяракі
в. Паграбішча

**Валожынскі раён:**

в. Данілкі
в. Дубкі
в. Каралеўшчына
в. Навінкі
в. Рудня
аграгарадок Пяршаі
в. Скрундзеўшчына
в. Галянова
в. Пуні
в. Тупчы
в. Баравікоўшчына
в. Цябуты

**Маладзечанскі раён:**

в. Мацукоўшчына

Па-ранейшаму ў зоне радыеактыўнага забруджвання знаходзяцца 46 населеных пунктаў на Вілейшчыне, Валожыншчыне і Маладзечаншчыне:

**Вілейскі раён:**

**Любанскі сельскі савет:**
в. Заазер'е

**Хаценчыцкі сельскі савет:**
в. Дварэц
в. Загараны
в. Заельнікі
в. Зачорная
в. Пляшчаны
в. Рабцы
в. Хаценчыцы

**Валожынскі раён:**

**Вішнеўскі сельскі савет:**
в. Бабры
в. Войштавічы
в. Ігнатава
в. Коцеўшчына
в. Альшанка
в. Радзюкі
в. Шуловічы

**Дорскі сельскі савет:**
в. Зарэчча
в. Клерымонты
в. Ласокіна
в. Раманаўшчына

**Івянецкі сельскі савет:**
в. Адамкі
в. Дайнава
в. Далідавічы
в. Камень
в. Мазулеўшчына
в. Млынкі
в. Пілюжына
в. Пагарэлка
в. Серкулі
а.г. Сівіца
в. Вуглы

**Пяршайскі сельскі савет:**
в. Бурбаўшчына
в. Вайнілаўшчына
в. Даўгулёўшчына
в. Канюшаўшчына
в. Пятроўшчына
в. Палубоўцы
в. Папкі
в. Смалёўшчына
в. Ціханоўшчына
в. Янушкавічы

**Маладзечанскі раён:**

**Гарадоцкі сельскі савет:**
в. Ваўчкі
в. Дарахі

**Хажоўскі сельскі савет:**
в. Задварцы
в. Лучанскія
в. Абухаўшчына
в. Хоўхлава
в. Шараі

Вёска Ціханоўшчына Валожынскага раёна знаходзіцца ў зоне з правам на адсяленне, у адрозненне ад усіх астатніх пералічаных населеных пунктаў.

У згаданым пераліку няма населеных пунктаў Смаргонскага, Астравецкага, Ашмянскага, Мядзельскага раёнаў.

Аддзел інфармацыі.

НАШЫ ГРОШЫ

# Як мяняўся заробак работнікаў адукацыі на працягу года

**"Рэгіянальная газета" прасачыла заробак работнікаў у галіне адукацыі за 2015 год і падлічыла, колькі спецыялісты зараблялі ў доларах, а таксама колькі на свой заробак маглі купіць тавараў.**

Сярод харчовых тавараў мы ўзялі свініну бескасцёвую, сярод нехарчовых – боты мужчынскія на футры, боты жаночыя зімнія на нізкіх абцасах, паўбоцікі зімовыя і дэмісезонныя на хлопчыка.

Калі пераводзіць заробак у долары, то найменшым ён быў у верасні – 275 долараў, найбольшым у студзені – 373 долары. Пачынаючы з мая заробак пачаў паступова змяншацца. Ад верасня расці.

Цана на валюту ўзятая на першы дзень кожнага месяца паводле курсу Нацбанка.

Што тычыцца беларускага рубля, то найменшым заробак быў у студзені – 4 439 260 рублёў. Найбольшым ён быў у чэрвені – 5 036 464 рубля.

Цана на харчовыя, нехарчовыя тавары, а таксама заробак спецыялістаў узятыя паводле дадзеных Нацстата.

Тры пары боцікаў на кожнага члена сям'і спецыяліст галіны адукацыі мог купляць кожны месяц, але колькасць купленага мяса мянялася. Найменш мяса ён мог сабе дазволіць у студзені (19 кілаграмаў), найбольш – у чэрвені (30 кілаграмаў).

**Галіна СІНІЦА.**

### Колькі работнік адукацыі можа купіць тавараў

| Месяц | Тры пары абутку (руб.) | Рэшта ад зарплаты | На рэшту можна купіць мяса (кг) |
|---|---|---|---|
| Студзень | 2 396 714 | 2 042 546 | 19 |
| Люты | 2 236 448 | 2 374 281 | 23 |
| Сакавік | 2 328 091 | 2 495 759 | 26 |
| Красавік | 2 336 738 | 2 491 510 | 27 |
| Май | 2 279 111 | 2 717 030 | 29 |
| Чэрвень | 2 314 881 | 2 721 583 | 30 |
| Ліпень | 2 389 111 | 2 410 793 | 27 |
| Жнівень | 2 410 793 | 2 225 135 | 24 |
| Верасень | 2 663 093 | 2 146 970 | 23 |
| Кастрычнік | 2 807 853 | 2 091 105 | 20 |
| Лістапад | 2 858 965 | 2 062 430 | 23 |

### Заробак работніка адукацыі ў 2015 годзе

| Месяц | Заробак у рублях | Заробак у доларах | Курс на 1-ы дзень месяца |
|---|---|---|---|
| Студзень | 4 439 260 | 373 | 11 900 |
| Люты | 4 610 729 | 299 | 15 400 |
| Сакавік | 4 823 850 | 323 | 14 890 |
| Красавік | 4 828 248 | 328 | 14 700 |
| Май | 4 996 141 | 350 | 14 270 |
| Чэрвень | 5 036 464 | 338 | 14 890 |
| Ліпень | 4 799 904 | 313 | 15 333 |
| Жнівень | 4 635 928 | 304 | 15 248 |
| Верасень | 4 810 063 | 275 | 17 452 |
| Кастрычнік | 4 898 958 | 276 | 17 688 |
| Лістапад | 4 921 395 | 282 | 17 438 |

### Цана (у руб.) на боцікі за 2015 год

| Месяц | Боцікі мужчынскія на футры | Боцікі жаночыя зімнія на нізкіх абцасах | Паўбоцікі зімнія і дэмісезонныя для хлопчыка |
|---|---|---|---|
| Студзень | 770 424 | 1 135 604 | 490 686 |
| Люты | 730 301 | 1 023 148 | 482 999 |
| Сакавік | 758 278 | 1 080 729 | 489 084 |
| Красавік | 757 027 | 1 073 349 | 506 362 |
| Май | 753 975 | 1 031 096 | 494 040 |
| Чэрвень | 756 743 | 1 104 605 | 453 533 |
| Ліпень | 771 288 | 1 125 893 | 491 930 |
| Жнівень | 786 195 | 1151 959 | 514 451 |
| Верасень | 913 169 | 1 207 235 | 542 687 |
| Кастрычнік | 927 624 | 1 332 290 | 547 939 |
| Лістапад | 912 196 | 1 373 482 | 573 287 |

### Цана на свініну бескасцёвую за 2015 год

| Месяц | Цана ў рублях |
|---|---|
| Студзень | 102762 |
| Люты | 100 563 |
| Сакавік | 95 301 |
| Красавік | 92 127 |
| Май | 91 126 |
| Чэрвень | 89 037 |
| Ліпень | 88 740 |
| Жнівень | 89 669 |
| Верасень | 89 652 |
| Кастрычнік | 104 989 |
| Лістапад | 90 059 |

ТРАНСПАРТ

## Падаражэў праезд у міжгародніх аўтобусах

**Інфармацыя пра новыя тарыфы размешчаная на афіцыйным сайце Мінсктранса.**

Праезд падаражэў як у аўтобусах агульнага тыпу, так і ў аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі. Павышэнне тарыфаў закране звычайныя і хуткасныя маршруты. Цэны на білеты міжгародніх маршрутаў вырастуць у сярэднім на 10%.

Праезд у аўтобусе Маладзечна-Вілейка павялічыўся з 13 200 рублёў да 14 900 рублёў. Даехаць ад Маладзечна да Валожына будзе даражэй на 3 000 рублёў – 26 500 рублёў. Пакуль не падаражэў праезд ад Маладзечна да Мядзела і маршрутка да Мінска.

Тарыфы на перавозку дзяцей ад пяці да дзесяці гадоў на міжгародніх маршрутах усталёўваюцца ў памеры 50% ад устаноўленых тарыфаў. Для зніжкі трэба паказаць пасведчанне аб нараджэнні або дакумент, які сведчыць асобу аднаго з бацькоў, у якім маецца адзнака аб дзецях.

Пры гэтым зніжка не распаўсюджваецца на маршруты, якім прысвоены нумар з сімваламі "К", якія не адносяцца да перавозак транспартам агульнага карыстання.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.01 руб. | 14.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 18 667,00 | **19 234,00** |
| Еўра | 20 183,00 | **20 951,00** |
| Злоты | 4 735,19 | **4 782,91** |
| Расійскі рубель | 254,75 | **251,04** |
| Грыўня | 772,00 | **823,73** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 13.01** | | |
| Еўра | 20100/20380 | **20850/21100** |
| Долар ЗША | 18550/18800 | **19300/19580** |

### ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.01 (Цана руб.) | 13.01 (Цана руб.) |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | - | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | - | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 800 | **28 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 90 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 900 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 45 000 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | - | **14 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **6 900** |
| Часнок, 1 кг | 49 500 | **57 500** |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | **5 900** |
| Морква, 1 кг | 6 500 | **6 500** |
| Баклажаны, 1 кг | - | **59 000** |
| Лімоны, 1 кг | 35 000 | **24 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 25 000 | **27 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 500 | **26 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **24 900** |
| Ківі, 1 кг | 29 000 | **29 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 42 000 | **32000** |
| Агуркі, 1 кг | 36 900 | **34 900** |
| Перац, 1 кг | 48 900 | **34 900** |
| Вінаград, 1 кг | 31 500 | **32 900** |
| Бананы, 1 кг | 24 000 | **-** |
| Хурма, 1 кг | 27 500 | **28 000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 63 000 | **43 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 500 | **13 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | **24 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | - | **18 000** |
| Масла, 1 кг | - | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | - | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 500 | **5 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | - | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | - | **60 000** |

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Мужчына стаяў тварам да цягніка, пакуль яго не збіла насмерць

МАЛАДЗЕЧНА

Трагічны выпадак здарыўся каля 16 гадзін у панядзелак, 11 студзеня.

Пра трагічнае здарэнне распавёў інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ **Сяргей Васілеўскі**.

На перагоне Пруды-Залессе мужчына выйшаў на каляіну першага галоўнага пуці. Яму насустрач ехаў грузавы цягнік Мінск-Вільня. Паводле слоў машыніста, мужчына стаў тварам да цягніка і проста стаяў. Ён не рэагаваў на сігналы, якія падаваў машыніст.

Ад атрыманых траўмаў мужчына загінуў на месцы.

Загінулага змаглі апазнаць. Гэта 56-гадовы жыхар вёскі Хатуцічы.

Зоя ХРУЦКАЯ.

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць мядзяльчаніна, які паехаў на заробкі ў Маскву

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Шукаюць зніклага **Дзмітрыя Валынца.**



Фота забяспечанае Мядзельскім раўаддзелам Следчага камітэта.

Дзмітры Валынец.

Ураджэнец вёскі Багданава Вілейскага раёна. Жыў у Мядзеле па вуліцы Школьнай. 10 студзеня 2015 года з мэтай працаўладкавання з'ехаў з Мядзела ў Маскву. Яго месцазнаходжанне не ўстаноўлена.

Прыкметы: 21 год, рост 175 см, хударлявы, бледны твар, блакітныя вочы, прамыя светла-русыя валасы, глухі голас, ясная гаворка, памер нагі 41.

Меў пашпарт грамадзяніна Беларусі, выдадзены 12.05.2010 Смаргонскім РАУС, серабрысты мабільны тэлефон "Нокіа" з абанентам нумарам аператара сотавай сувязі Расійскай Федэрацыі
+ 79259188348.

Просім усіх, хто мае інфармацыю пра Дзмітрыя Валынца, а таксама тых, хто працаваў з ім у Расіі, паведаміць у райаддзел Следчага камітэта па нумары **8-01797-55864,** або ў Мядзельскі РАУС, **8-01797-55471, 102.**

Мядзельскі раённы аддзел Следчага камітэта.

ТЭМА НУМАРА



Віляйчаніна прыгаварылі да смерці другі раз. У 1989 годзе пасля абскарджання прысуд змякчылі. Сёлета ён можа яшчэ звярнуцца ў Вярхоўны суд. Фота sincom.ru.

# У Вілейцы вынеслі першы сёлета ў Беларусі смяротны прысуд

## Асудзілі віляйчаніна, які збіў да смерці сужытніцу

**У Вілейцы 5 студзеня Мінскі абласны суд вынес прысуд 48-гадоваму мужчыну.**

Яго прызналі вінаватым у наўмысным забойстве, здзейсненым з асаблівай жорсткасцю асобай, якая раней учыніла забойства. Па гэтым артыкуле неадназова судзімага віляйчаніна прыгаварылі да выключнай меры – смяротнага пакарання, расказала прэс-сакратар Мінскага абласнога суда **Анастасія Шудзянкова.**

Таксама яго асудзілі па артыкуле "Ухіленне бацькоў ад утрымання дзяцей" – раней яго ўжо судзілі за гэта. Прызначылі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін адзін год 10 месяцаў.

Па сукупнасці злачынстваў канчаткова прызначанае смяротнае пакаранне (расстрэл).

Прысуд не ўступіў у законную сілу. Ён можа быць абскарджаны ў Вярхоўным судзе.

### Збіў сужытніцу да смерці

Здарэнне адбылося летась у ліпені ў прыватным доме ў Вілейцы. Мужчына ў нецвярозым стане падчас сваркі збіў 37-гадовую віляйчанку, з якой жыў. Нанёс ёй шмат удараў кулакамі. У выніку ў жанчыны – траўматычны шок, множныя пераломы рэбраў, разбітая правая доля печані і іншыя пашкоджанні. Ад траўмаў жанчына памерла на месцы. А ён сам выклікаў міліцыю.

Раней мужчыну ўжо прыгаворвалі да смяротнага пакарання: за забойства віляйчаніна і за згвалтаванне і забойства жанчыны ў Мінску ў 1989 годзе.

Але Вярхоўны суд па яго скарзе прысуд адмяніў. У выніку смяротнае пакаранне замянілі на 15 год калоніі.

### Пазіцыя пракуратуры

Кажа пракурор аддзела пракуратуры Мінскай вобласці **Ілья Слука:**

– На думку прадстаўніка дзяржаўнага абвінавачвання, віна мужчыны ў судовым пасяджэнні была даказаная ў поўным аб'ёме.

Прапануючы прызначыць яму смяротнае пакаранне, дзяржаўны абвінаваўца прыняў да ўвагі непагашаныя судзімасці абвінавачанага за папярэднія асабліва цяжкія і цяжкія злачынствы – у тым ліку, наўмысныя забойствы, згвалтаванне, наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў і іншыя. А таксама тое, што мужчыну неадназова прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці і што ён учыніў злачынства ў стане алкагольнага ап'янення.

### Меркаванне праваабаронцы

Расказвае каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" **Андрэй Палуда**:

– Гэта першы смяротны прысуд у нашай краіне ў 2016 годзе. Вядома, не будзем зараз даваць ацэнку абставінам справы – з ёй яшчэ трэба працаваць. Мы заўсёды глядзім на гэтыя сітуацыі з пункту погляду таго, што ёсць смяротнае пакаранне ў нашай краіне, і вось гэты чалавек прыгавораны да яго. Зразумела, што мы выступаем супраць смяротнага пакарання, бо сыходзім з універсальнасці прынцыпаў правоў чалавека, і кажам пра тое, што смяротнае пакаранне – гэта парушэнне правоў чалавека.

У межах нашай кампаніі мы займаемся і будзем займацца гэтай справай. Працуем са сваякамі, будзем абскарджваць прысуд і спрабаваць дабіцца выніку па гэтай справе: адмены смяротнага пакарання на нацыянальным узроўні. Калі гэта не атрымаецца, то будзем звяртацца ў камітэт ААН па правах чалавека, каб справа разглядалася на міжнародным узроўні.

Аддзел інфармацыі.

**Даведка "РГ".** Па інфармацыі праваабаронцаў у Беларусі за перыяд незалежнасці асуджаны да смяротнага пакарання 334 чалавекі. 2012 год быў адзіным, дзе смяротнае пакаранне не выносілася судамі. У 2013 годзе Гродзенскі абласны суд па сукупнасці злачынстваў прыгаварыў віляйчаніна Паўла Селюна да выключнай меры пакарання – расстрэлу. Судовая калегія Вярхоўнага суда пакінула прысуд у сіле. Прысуд прывялі ў выкананне. Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, дзе прымяняецца смяротнае пакаранне.

## Што расказвае былая жонка пра віляйчаніна, якога прыгаварылі да расстрэлу

ВІЛЕЙКА

11 студзеня прадстаўнікі кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" сустрэліся са сваякамі асуджанага да вышэйшай меры пакарання жыхара Вілейкі Генадзя Я.

Яго першая жонка Наталля распавяла праваабаронцам пра асобу асуджанага і акалічнасці яго справы.

### За краты ў 17 гадоў...

Першы раз Генадзя асудзілі, калі яму было 17 гадоў. Ён адабраў у п'янага мінака з сябрам бутэльку віна. Міліцыя знайшла іх вельмі хутка. Тады яму прысудзілі тры гады калоніі. Наталля і Генадзь сустрэліся, калі яму быў 21 год, якраз пасля вяртання з калоніі.

"Калі нашай дачцэ было два месяцы, ён зноў трапіў у турму. На гэты раз яму прысудзілі 15 гадоў за забойства. Ён разам са сваімі сябрамі абвінавачваўся ў забойстве Вячаслава Д. (віляйчаніна – рэд.) і ва ўдзеле ў забойстве і згвалтаванні дзяўчыны з Мінска", – успамінае Наталля.

За гэта злачынства Генадзь быў прысуджаны да 15 гадоў турмы, аднак адседзеў 12 гадоў і ў 2001 годзе выйшаў на вольныя пасяленні ў Гродзенскай вобласці. Падчас знаходжання на вольным пасяленні ў Генадзя адбылася сутычка з адным мужчынам, і ён атрымаў яшчэ тры гады турмы.

### Смяротны прысуд

Усяго Генадзь прыцягваўся да адказнасці пяць ці шэсць разоў, з іх цяпер ужо другі раз за забойства.

Абвінавачванне сцвярджала, што Генадзь забіў сваю сужытніцу. Некалькі дзён запар яны праводзілі час з сябрамі, пілі, пасля чаго раніцай мужчына выявіў труп сужытніцы і сам выклікаў міліцыю.

"На судзе былі прадстаўленыя толькі ўскосныя доказы яго віны. Калі на судзе паняты ўстаў, усе яго адказы на пытанні зводзіліся да "не памятаю", "не ведаю", "не бачыў". Яго спыталі: "Вы падпісвалі дакумент, які следчы падаў вам у ходзе агляду месца злачынства? Вы чыталі, што там напісана?" Ён адказаў: "Так". Яго спыталі, ці ўсё там дакладна выкладзена. І ён адказаў: "Так". Калі справа тычылася нейкіх дэталяў і фактаў, то паняты спасылаўся, што нічога не памятае", – адзначае Наталля.

"Адзін з ключавых сведак па гэтай справе чатыры разы мяняў свае паказанні. Следства выявіла, што на целе жанчыны было 46 удараў кулаком. Пры гэтым усе сведкі ў адзін голас сцвярджаюць, што яны чулі 12-13 удараў.

Я ведала, што ў Беларусі існуе смяротнае пакаранне, але заўсёды была супраць. Лічу, што людзі не маюць права забіраць жыццё ў іншага чалавека. Калі чалавек здзейсніў цяжкае злачынства, калі яго віна даказаная, ён павінны быць прысуджаны да пажыццёвага зняволення. Я ўвогуле вельмі здзіўленая, што Беларусь засталася адзінай краінай у Еўропе, дзе існуюць такія законы", – распавяла былая жонка Генадзя Наталля.

Паводле spring96.org.


Фота забяспечана Настассяй РОЎДАЙ.

Падчас ініцыятывы "Марш жаб".

● АДУКАЦЫЯ

# Гімназісты будуць вучыць ініцыятыўнасці

МАЛАДЗЕЧНА

**Гімназія-каледж мастацтваў Маладзечна распрацавала мясцовую ініцыятыву, якая можа дапамагчы вучням Красненскай, Хажоўскай і Палачанскай сярэдніх школ навучыцца паляпшаць навакольны свет.**

Ініцыятыва "Стварэнне ўмоў для праяўлення і рэалізацыі моладзевых ініцыятыў у інтарэсах устойлівага развіцця Маладзечанскага раёна" ўвайшла ў лік 87 лепшых. Яна атрымала грант у межах сумеснага праекта Еўрапейскага саюза і Праграмы развіцця ААН "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь".

Акрамя трох школ, ініцыятыва аб'ядноўвае Красненскі, Хажоўскі і Палачанскі сельвыканкамы, аддзел адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, асацыяцыю "Адукацыя для ўстойлівага развіцця".

Апошнія пяць гадоў гімназія-каледж актыўна займаецца ўкараненнем ідэі ўстойлівага развіцця, калі кожны чалавек жыве так, каб яго дзецям і ўнукам жыць было не горш.

Увесь час настаўнікі з вучнямі ладзяць сустрэчы, майстар-класы, акцыі, флэшмобы, якія прыцягваюць увагу да сацыяльных, экалагічных праблем. Такая актыўнасць стымулюе вучняў быць ініцыятыўнымі і шукаць шляхі для вырашэння самых розных задач, якія ў выніку могуць палепшыць жыццё ўсяго грамадства.

– У межах ініцыятывы гімназісты будуць дзяліцца з вучнямі трох школ раёна тым, што самі ўжо ўмеюць, – тлумачыць намесніца дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце гімназіі-каледжа мастацтваў **Алена Храмцэвіч**. – Узяць, да прыкладу, "Марш жаб". Удзел у гэтай акцыі, якая адбываецца па ўсім свеце, для нас ужо традыцыйны. Вучні выходзяць на вуліцы з жабянём Фрэнкам, зробленым з пап'е-машэ, і просяць мінакоў даць абяцанне, якое дапаможа захаваць клімат на нашай планеце. І калі чалавек дае абяцанне, мусіць "накарміць" жабяня звычайным коркам, якія мы таксама бяром з сабой. Таксама з экалагічных – акцыя "Пасадзі дрэва".

Калі гаварыць пра сацыяльныя праекты, то вучні сустракаюцца і ствараюць вырабы з дзецьмі з Маладзечанскага цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, вучаць танцаваць дзяцей з сацыяльна-педагагічнага цэнтра Маладзечаншчыны. Акцыя "Пагавары са мной" заклікае бацькоў размаўляць з дзецьмі.

З іншых ініцыятыў – адраджэнне нацыянальнай беларускай кухні, калі гімназісты вышукваюць традыцыйныя рэцэпты, а потым дзеляцца імі з мінакамі на вуліцах горада.

– Такая практыка дае свой плён, і гэта ўжо заўважна, – кажа Алена Храмцэвіч. – Вучні сталі больш актыўнымі, яны лепш асэнсоўваюць працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, і ўжо самі прапаноўваюць ідэі наступных праектаў.

**Што пройдзе ў межах ініцыятывы**

– Інфармацыйная кампанія

– Кірмаш моладзевых ідэй

– Адкрыты раённы фестываль дзіцяча-дарослых ініцыятыў у інтарэсах устойлівага развіцця Маладзечанскага раёна

– Навучальная паездка ў Браслаўскі раён па абмене досведам арганізацыі ўзаемадзеяння моладзі і органаў улады

Вынікам ініцыятывы стане стварэнне малога інкубатара моладзевых ініцыятыў Маладзечанскага раёна.

Настасся РОЎДА.

● ДЭМАГРАФІЯ

## Ксенія і Максім сталі найпапулярнейшымі імёнамі 2015 года на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**У 2015 годзе ў Вілейскім раёне нарадзілася 481 дзіця. Гэта на сем менш, чым пазалетась. Памерлі 874 чалавекі (у 2014 годзе – 817).**

Зарэгістравалі на Вілейшчыне 344 шлюбы – пазалетась было 359. Шэсць нявест летась былі непаўналетнія.

У 2015 годзе зарэгістравалі 19 шлюбаў з іншаземцамі – гэта грамадзяне Расіі, Украіны, Туркменістана.

Самымі папулярнымі імёнамі для немаўлят для дзяўчат сталі:

1. Ксенія –16
2. Анастасія – 15
3. Паліна – 13
4. Дар'я, Кацярына, Марыя, Сафія – па 12
5. Ульяна – 11

Называлі бацькі сваіх нашчадкаў такімі рэдкімі імёнамі, як Анета, Багдана, Васіліса, Лейла, Ніколь, Алівія, Златарына.

Хлопчыкаў найчасцей называлі так:

1. Максім – 14
2. Арцём – 11
3. Іван, Мацвей, Мікіта, Цімафей – па 10
4. Аляксандр, Аляксей, Ягор – па 9
5. Даніiл, Ілля, Раман, Яраслаў – па 8

Па адным хлопчыку назвалі так: Усевалад, Яфім, Герман, Дамір, Ісмаіл, Мірон, Платон, Радзівон. Расце на Вілейшчыне і Макс.

Пра гэта расказала начальніца аддзела ЗАГС райвыканкама **Вольга Мароз.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

● ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

## Дзяніс Мельянцоў: 2015-ты можна назваць "годам беларускай знешняй палітыкі"

**Еўрарадыё: У 2015-м Беларусь даволі актыўна "гучала" на міжнароднай арэне, але якая падзея падаецца найбольш значнай?**

**Дзяніс Мельянцоў:** Падзей было шмат, але ёсць адна, якая захінае ўсе астатнія – "Мінскія дамоўленасці" і візіт у лютым у Мінск канцлера Германіі Ангелы Меркель і прэзідэнта Францыі Франсуа Аланда.


Фота Зміцера ЛУКАШУКА.

Аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў, магістр палітalогіі Дзяніс Мельянцоў.

Здарылася тое, з чаго ўсе ў 2014-м годзе смяяліся: Беларусь збіраецца пасярэднічаць у вырашэнні ўкраінскага канфлікту! А па факце, дзякуючы таму, што Беларусь паспрабавала нейкім чынам зрабіць свой унёсак у гэта міратворства, сёння і Папа Рымскі, і Абама ўзгадваюць Мінск і "Мінскія дамоўленасці". І дыпламаты ды палітыкі, прычым не толькі еўрапейскія, наведваючы Мінск, кажуць пра сваю ўдзячнасць Беларусі за яе ўнёсак у вырашэнне ўкраінскага канфлікту.

**Еўрарадыё: Але што гэта "міратворчая місія" дала Беларусі, апроч згадвання яе палітыкамі і дыпламатамі розных краін?**

**Дзяніс Мельянцоў:** Удакладню: па вялікім рахунку, гэта не пасрэдніцтва, а "добрыя паслугі". Калі мы непасрэдна не ўдзельнічаем ва ўрэгуляванні гэтага крызісу, але максімальна спрабуем зблізіць пазіцыі бакоў, даём магчымасць сустракацца, прымаем у сябе перамоўную групу па Украіне... Дало гэта нам тое, што рэзка нарасціла імідж Беларусі ў свеце. Беларусь пачалі ўспрымаць, як больш значнага міжнароднага гульца. Вялікую ролю адыграла нават не "міратворчая пазіцыя" Беларусі, а пазіцыя, адрозная ад пазіцыі Расіі па ўкраінскім крызісе, увогуле, у адносінах з Захадам. Цяпер стаўленне да Беларусі з боку ЕС і ЗША значна лепшае.

**Еўрарадыё: Што можна назваць знешнепалітычным паражэннем Мінска 2015 года?**

**Дзяніс Мельянцоў:** Калі казаць пра тое, што сапраўды залежала ад нас, і калі прымаць тэзу, што беларуская знешняя палітыка – найперш знешнеэканамічныя адносіны, то Беларусь не дамагацца крэдытаў, якіх хацела. Адначасова кажам як пра крэдыт МВФ, так і пра крэдыты з боку Расіі і еўразійскіх структур, і пра гіпатэтычныя грошы ад ЕС (доступ да разнастайных еўрапейскіх фінансавых інструментаў). Мэта такая ставілася, але ў 2015 годзе яе так і не дасягнулі.

Ёсць і тое, што не залежыць ад Беларусі. Найперш, гэта канфлікт паміж Расіяй і Захадам. Гэта прывяло да таго, што ў Беларусі звужаецца магчымасць для знешнепалітычнага манеўру. Прыклад – пытанне расійскай авіябазы. Чым халаднай адносіны паміж Захадам і Расіяй, тым больш Расія ціcне, каб такая база ў Беларусі была. І тут дасягненне, што пакуль рашэння па базе з беларускага боку няма.

**Еўрарадыё: Якое, на ваш погляд, развіццё пералічаныя падзеі атрымаюць у 2016-м годзе?**

**Дзяніс Мельянцоў:** Мы пералічылі толькі некалькі значных падзей, а на самой справе, 2015-ты год можна назваць годам беларускай знешняй палітыкі. Тут і фотаздымак з Абамам, і ўдзел беларускага кіраўніка ў спецыяльнай вячэры па запрашэнні Абамы, тут і візіт кітайскага лідара, што вельмі значна для Беларусі, тут і шэраг візітаў лідараў азіяцкіх краін, Індыі, Пакістана, і ўвядзенне бязвізавага рэжыму з Ізраілем. Тут і візіт кіраўніка Азербайджана Ільхама Аліева у самы разгар "расійска-турэцкага канфлікту": Азербайджан – бліжэйшы турэцкі саюзнік, і гэта быў выклік Маскве. І давайце не забывацца, што ўпершыню Лукашэнка паламаў традыцыю першага знешнепалітычнага візіту: паляцеў не ў Маскву, як звычайна пасля выбараў, а ў В'етнам і Туркменістан.

Зміцер ЛУКАШУК, "Еўрарадыё".

**Цалкам артыкул чытайце на сайце euroradio.fm.**

● КНІГІ

## Выйшаў другі выпуск гадавіка "Вілейскі павет"

ВІЛЕЙКА

**У ім даследчыкі дзеляцца сваімі адкрыццямі, а чытачы атрымліваюць адначасова займальнае і пазнавальнае чытво пра свой край.**

У гадавіку размешчаны пераклад з польскай мовы кнігі ўраджэнца вёскі Мікуліна польскага прафесара **Францішка Сяліцкага** "Даўгінаўска-будслаўска-крывіцкі рэгіён на даўняй Віленшчыне (гістарычная хроніка)". На беларускую мову яе пераклаў **Мікола Гіль**.

Пра самога прафесара і род можна шмат даведацца з яго ўласных успамінаў пра жыццё ў Мікуліне, а таксама з публікацый удавы і брата.

**Павел Радына** правёў агляд новых кніг вілейскіх аўтараў, у тым ліку на тэму краязнаўства. Асобны блок укладальнікі прысвяцілі тым, каго ўжо з намі няма – **Аляксею Лужынскаму**, **Пятру Цыгалку** і **Рагнедзе Аляхновіч**.

**Анатоль Капцюг** сабраў легенды і паданні Віліі. **Віктар Жыбуль** напісаў пра фальклорыста-міфатворцу **Вульфа Сосенскага**, у кнізе ёсць і тэкст апошняга "Версіі і легенды. Гутаркі пра беларускага паэта Ф.К. Багушэвіча".

У зборніку размешчаная аўтабіяграфія **Андрэя Сухога**, даследаванне пра мінулае і сучаснае роду **Гацэвічаў**, а таксама артыкул **Тэлесфара Пазняка** пра беларускія рэаліі ў польскім засцянковым асяроддзі Вілейскага павета ў 1918–1939 гадах.

Сярод аўтараў – журналіст газеты "Наша ніва" **Сяргей Макарэвіч**, паэт і перакладчык **Уладзімір Папковіч**, настаўніца і пісьменніца **Роза Шэрая**, краязнаўца **Міхась Міхалевіч**.

Укладальнікі кнігі – Сяргей Макарэвіч і **Дзяніс Канецкі**.

Гісторыка-краязнаўчы гадавік "Вілейскі павет. Выпуск 2" выходзіць пры падтрымцы фонду "Вяртанне". Наклад – 300 асобнікаў. У кнізе 320 старонак.

Аўтары заклікаюць тых, хто хоча падзяліцца сваімі даследаваннямі Вілейшчыны, дасылаць тэксты для наступных выданняў на адрас: viliejskipaviet@gmail.com.

**Аддзел інфармацыі.**

**"Шырока вядомыя ў Беларусі скамянелыя быкі ў лесе паблізу вёскі Сцебяракі – пяць камянёў з высечанымі на іх знакамі вертыкальна стаяць у адну лінію".**

**"Паляванне на тура дазвалялася толькі як абрадавае дзеянне князя або паганскага жраца".**

З артыкула Аляксандра Зайцава
Рэлікты культу быка на Вілейшчыне".

● ВЫСТАВЫ

## Пасярод зімы пабыць у леце

ВІЛЕЙКА

Адкрыццё персанальнай выставы **Наталлі Табушавай** "Фарбы лета" пройдзе 15 студзеня ў выставачнай зале імя Сілівановіча.

Пачатак – а 16 гадзіне.

Наталля Табушава – мастак, магістр мастацтвазнаўства. Нарадзілася ў Мінску. Выпускніца кафедры жывапісу мастацкага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і магістратуры гэтай установы. Працуе ў жанры партрэта, нацюрморта, пейзажа і сюжэтнай кампазіцыі.

– Яе любімы жанр – партрэт. У творчасці ёй цікава раскрыццё найбольш характэрных рыс сучаснага чалавека, псіхалогіі і стану яго душы, – кажа навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

Свае працы мастачка прадстаўляла на сямі персанальных выставах у Полацку, Мінску, Заслаўі. Прымала ўдзел у рэспубліканскіх, міжнародных і замежных выставах, пленэрах і конкурсах. Наталля – лаўрэат міжнародных конкурсаў і прэміі Мінскага гарвыканкама, аўтар і кіраўнік пленэра "Дух гісторыі".

Яе творы знаходзяцца ў фондах Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у прыватных калекцыях у Беларусі, Расіі, Германіі і ЗША, дадала Надзея Аўдзей.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТРАДЫЦЫІ

# Калядаванне – задавальненне ад народнага гуляння

МАЛАДЗЕЧНА

**9 студзеня жыхары вёскі Краснае мірна глядзелі тэлевізар і рабілі дамашнія справы: мауляў, асноўныя навагоднія святы прайшлі – можна і адпачыць. Але не так тут было:**

*"Тупу-тупу
на памосце, прыехалі госці.
Ні старыя, ні малыя,
калядачкі маладыя."*

Група энтузіястаў, апантаных калядней, ды ўвогуле народнай справай, накіравалася калядаваць. Прапанавалі гэта зрабіць арганізатары вечарыны па Лібава-Роменскай у Маладзечне "Вячоркі", натхняльнікам быў **Цімох Акудовіч**.

Рыхтаваліся ўдзельнікі два тыдні, тэксты песень прапанаваў Цімох Акудовіч.

Большасць калядавала ўпершыню. І ад гэтага было яшчэ больш цікавей. Размеркавалі ролі: Каза (**Дзяніс Краўчонак**), Доктар (**Ганна Кірылічава**), Мядзведзь, іх было адразу два: мінскі (**Алесь Галкоўскі**) і, як мае быць, смаргонскі (**Аляксандра Парфянюк**), Бусел (**Дзмітры Давыдаў**), Цыганка (**Марыя Шыцік**), Баба (**Вольга Трубач**), Дзед (**Цімох Акудовіч**), сярод калядоўшчыкаў былі **Ганна Шакель**, **Алег Чырыца**, **Наста Галкоўская**, **Андрэй Шыцік**. Запявала калядныя песні **Алена Мятлюк**. Калядоўшчыца, якая несла калядную зорку, **Наталля Чырвонцава**.



Фота забяспечана Воляй ТРУБАЧ.

Цімох Акудовіч трымае ў руках накаляданыя прысмакі.

Уборы кожны з герояў прыдумваў самастойна, пераважна імправізавалі. Адмысловы касцюм рабілі сабе Бусел, Доктар, Мядзведзі, Каза і Цыганка.

Амаль ва ўсе хаты, у якія мы заходзілі, нам адчынялі дзверы і шчыра частавалі.

Запомніўся выпадак, калі трапілі ў хату да цяжкахворай бабулі, яна запыталася радасна: "Адкуль жа вы ўзяліся? Адкуль прыехалі?". А мы адказваем: "Ідзём з далёкага краю, з-пад самага раю!" Ох, і заспявалі мы ёй, ох, і паказваў наш Мядзведзь з Смаргонскай акадэміі "цікавыя штукі": і як баба бялізну мые, і як дзеці ў школу ідуць, і як хлопец да дзеўкі заляцаецца. А Каза так танцавала, што суседзі чулі. Доктар выпісаў адмысловы рэцэпт з пажаданнем 40 разоў паўсміхацца на дзень.

Паспявалі, пасмяяліся і вырашылі, што на гэтым спыняцца не трэба, а будзем і надалей раскручваць наша народнае кола.

Накалядавалі мы на багаты стол, які зладзілі ў музеі традыцыйнай культуры і побыту ў Плябані. Калядоўшчыкам давалі кілбасы, пячэнне, сала, закаткі, цукеркі і нават гарэлку. За ўтульную пляцоўку шчыра дзякуем дырэктару музея **Але Ліхтаровіч**.

**Для тых, хто зацікавіўся, будзе магчымасць адчуць сапраўднае задавальненне ад народнага гуляння. Прыходзьце 27 студзеня а палове сёмай вечара на Лібава-Роменскую, 71.**

*"Мы скажам табе
дзіва дзіўное,
Дзіва дзіўное,
шчэ дзіўнейшое!"*

**Воля ТРУБАЧ,**
**Маладзечна.**

**Даведка "РГ".** "Вячоркі" ладзяць вечарыны два разы на месяц, пачынаючы з восені. На іх можна патанцаваць, паспяваць, даведацца пра цікавыя факты матэрыяльнай культуры нашых дзядоў. І ўсё гэта пад жывы гук капэлы "На таку". Арганізатарамі вечароў з'яўляюцца: студэнцкае этнаграфічнае таварыства, цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёна. Мэта вечарын: прыцягнуць увагу да народнай культуры беларусаў.

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Пройдзе квэст, прысвечаны Генадзю Каханоўскаму

МАЛАДЗЕЧНА

16 студзеня ў 12 дня таварыства "Тутэйшыя квэсты" сумесна з раённай бібліятэкай імя Максіма Багдановіча праводзіць квэст у дзвюх дзеях: "Маладзечанскія Кірыл і Мяфодзій".

Падчас першай часткі вы даведаецеся пра жыццё і дзейнасць гісторыка, археолага, фалькларыста, літаратуразнаўцу, краязнаўцу Генадзя Каханоўскага.

Пра яго раскажа пісьменнік, краязнаўца, заснавальнік "Беларускай хаткі", укладальнік фаліянта "Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак" **Міхась Казлоўскі**.

Адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 121 (бібліятэка "Верасок").

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".** Нарадзіўся Генадзь Каханоўскі 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы. Вучыўся ў Лебедзеўскай сярэдняй школе, скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага педагагічнага інстытута.
Працаваў у Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне. Тут прайшоў шлях ад навуковага супрацоўніка да дырэктара музея, абараніў кандыдацкую дысертацыю.
Узбагаціў фонды музея шматлікімі экспанатамі, сярод якіх ёсць выключна рэдкія.
У 1982 годзе абараніў доктарскую дысертацыю.
Напісаў больш за дзесяць кніг, каля тысячы публікацый, шмат артыкулаў для энцыклапедычных выданняў.
Пайшоў з жыцця 15 студзеня 1994 года.

ЗНАРОК НЕ ПРЫДУМАЕШ

# Як я з апавяшчальнікам ваявала

ВІЛЕЙКА

**Цяпер пажарнікі наведваюць дамы састарэлых і раяць набываць ім пажарныя апавяшчальнікі. Пры праверцы дамоў наведаліся да нас і загадалі набыць такое прыстасаванне.**

Ну, мы людзі законапаслухмяныя, набылі яго і прышпандорылі да столі.

Усё было добра, пакуль я не парушыла яго цішыню. А справа ў тым, што газавая пліта ў нас знаходзіцца на верандзе. Там гатую стравы.

Дык вось аднойчы пяку я бліны. А ў прыхожай у нас стаіць тэлевізар. Чую, серыял пачаўся, бягом да тэлевізара. Здаецца, на хвіліначку ўскочыла, а бліны паспелі добра падгарэць. Пачула пах гарэлага, дзверы ў веранду адчыніла, дала ў хату той гары.

Ну, тут і пачалося. Бохкна, калі ж стаў той апавяшчальнік раўці, ды так моцна, ды так крыкліва. Не ведаю, што і рабіць. Палезла, выкруціла пробкі – раве. Бліны з патэльнямі выкінула на двор.

Дзед ляжыць, ён хворы, сама палезла пад столь, нека зняла яго, дык у руках раве. На двор выйшла, даю яму кіслароду – ён усё роўна раве. Махаю рукамі і прычытаю:

– Ну, чаго ты так угняявіўся, усяго ж два блінкі згарэлі, ну, супакойся! – Раве. – Ну, дыхай жа ты кіслародам, ці табе яго мала на двары?

На шчасце суседка з працы вярталася. Пытаецца:

– Галя, што ты робіш? Чаго лётаеш па двары ычы".

– Ды во, ніяк не магу ўтаймаваць гэтага прыдурка.

Суседка мне параіла недзе нешта адкруціць. А дзе? Пакруціла ў руках, нідзе ніякай кнопкі не знайшла. Тады жанчына паклікала свайго гаспадара. Той нешта выкруціў, выкінуў. Змоўк нарэшце мой мучыцель.

**З'явіўся вечарам сын, паставіў гэтага неслуха на месца, пакуль маўчыць. А калі я задзіраю галаву ды прыглядаюся да яго, ён хоць калі мне мільгае маленькім агеньчыкам.**

Пасля таго выпадку, калі па тэлевізары ідзе серыял, адразу выключаю ўсе свае каструлі і смела сяджу. Цяпер ніхто ўжо мяне не турбуе.

**Галіна БУРКЕВІЧ,** Ілья.



Фота ksfati.dp.ua

Спачатку трэба закончыць справы на кухні, а пасля ісці да тэлевізара. Жыхарка Ільі ўпэўнілася ў гэтым на сваім досведзе.

# Якім быў палон у Першую сусветную і Вялікую Айчынную

## Погляд салдата, які пабываў у палоне на абедзвюх войнах і на якога прыйшла пахаванка

**Чытаючы радкі рамана Эрыха Марыі Рэмарка "На Заходнім фронце без перамен" міжволі ўспомніў даўняе знаёмства і размову з выпадковым спадарожнікам ў вагоне цягніка Мінск-Віцебск у 1965 годзе.**

Майму спадарожніку **Піліпу Ягоравічу** было не больш за 70. Вышэй за сярэдні рост, худы, крыху сагнуты, з выгаралымі ад часу і перажытага блакітнымі вачыма.

Я ехаў да брата. Ён – на 20-ю гадавіну Перамогі, на сустрэчу з аднапалчанамі, паглядзець месцы, дзе ваяваў і трапіў у палон пад Віцебскам у Вялікую Айчынную вайну. Прыкінуў яго ўзрост, колькі ж гадоў яму было, калі пачалася вайна? Але спытаць пасаромеўся. Бачачы маю збянтэжанасць, ён сказаў: "Мне, брат, "пашанцавала". Я ж паспеў пававяваць яшчэ ў мікалаеўскую вайну і тады собіла трапіць у палон. Так што, дружа, я двойчы быў у нямецкім палоне".

### Лагерны побыт здзіўляў чысцінёй і парадкам

Спытаў Піліпа Ягоравіча, як ён трапіў у палон першы раз?

– Мяне з таварышам паслалі ў дазор. На світанку ў тумане мы падабраліся амаль да самых нямецкіх акопаў і перад драцянымі загародамі немцаў акапаліся. Акопчык замаскіравалі, уладкаваліся, на бруствер па перыметры паклалі гранаты. І сталі сачыць за праціўнікам.

Надышоў вечар. Ноччу дзяжурыў таварыш, раптам ён штурхае мяне і шэпча, што немцы робяць праход у драцяных загародах.

Сапраўды, побач чулася падазронае валтузня. Вырашылі ў падазронае месца кінуць гранату. Граната трапіла ў дрот загароды і адскокам заляцела назад да нас у акопчык. Узарваліся гранаты, якія ляжалі на брустверы. Першае, што запомніў, велізарнае чорнае неба, якое павольна кружыцца, абсыпанае яркімі зоркамі, і звонкая цішыня. Дзесьці там, у свядомасці, мільганула, што я забіты. Калі прыйшоў у сябе, то ўбачыў вакол немцаў. Яны са здзіўленнем разглядалі мяне, дакладней, маю вопратку. Яна была ў суцэльных лахманах, я ж акрамя драпін і ўдараў пашкоджанняў не меў. Таварыш загінуў. Вось так я апынуўся ў палоне ў немцаў у 1916 годзе.

Як мой суразмоўца трапіў у палон другі раз, пытацца было няёмка, але спытаў, калі было цяжэй у палоне ў немцаў – у мікалаеўскую ці ў Вялікую Айчынную?

– У мікалаеўскую, – распавёў мой спадарожнік, – мне пашанцавала, у лагеры афіцэры былі аддзеленыя ад салдат, але мець зносіны нам не забаранялі. Афіцэры і салдаты насілі сваю форму і знакі адрознення, у ботах, афіцэры – у каго былі, пры гадзінніках. Параненыя перавязаныя. Жылі ў дашчаных, ацепленых і асветленых бараках, мелі магчымасць чытаць і пісаць, хто ўмеў. Лагерны побыт здзіўляў чысцінёй і парадкам.



Фота smolbattle.ru

Рускія палонныя ў Берліне.

**Мне, які вырас у курнай хаце з глінабітнай падлогай і адразу патрапіў у акопы вайны, нязвыклыя былі асобны ложак з прасцінай і коўдрай, ежа, хоць і не сытная, а тры разы на дзень па званку, строгае, але ветлівае абыходжанне аховы.**

Працаваць канваір вадзіў да гаспадара. Яго сын загінуў у Францыі, да мяне ён ставіўся нядрэнна. Працы сялянскай я не баяўся, вырас у вёсцы. Працаваў шмат. Абедаў разам з гаспадаром, не галадаў, як многія нашы ў палоне. Бяссоннымі начамі палону думкамі быў дома, марыў уладкаваць сваё пасляваеннае жыццё, так як яго ўладкаваў немец, у якога я працаваў. Усё ў гэтага гаспадара было прадуманае і да толку зробленае.

Бальшавікі абяцалі сялянам зямлю, і гэта многіх з нас цешыла, мы жылі надзеямі на лепшае. На жаль, надзеі не спраўдзіліся.

### Другі раз у палоне

– У Айчынную, у 41-м, трапіў у палон пад Віцебскам, – працягваў мой суразмоўца. – Немец быў разумны, каварны і моцны, бамбаваў нас неміласэрна. Нашых "сокалаў Сталіна" мы не бачылі, "сцярвятнікі Гітлера" загналі іх у зямлю. Дывізію нашу раскалашмацілі ў лічаныя дні, нам жа не было чым адбівацца, скончыліся патроны і снарады.

Гналі нас у Віцебск па суражскай шашы. Уся праезная частка дарогі была забітая нямецкай тэхнікай і пяхотай, якая ішла на ўсход. Велізарная бясконцая калона нашых ваеннапалонных па-нура ішла ўздоўж шашы. Ад Суража да Віцебска была яе даўжыня.

Аповед суразмоўцы мяне цалкам захапіў: гэта было так не падобна і нязвыкла на тое, што я чытаў у кніжках, газетах і глядзеў у кіно пра вайну.

– У Віцебску, – распавядаў мой спадарожнік, – нас пагрузілі ў таварны склад і павезлі ў бок Полацка. Стаяла спякота, вады ўсім не хапала, ехалі галоднымі. Ноччу было лягчэй. Цягнік ішоў на захад.

Дзе, дакладна не памятаю, ці то ў Крулеўшчыне, ці то ў Куранцы, нас высадзілі і пагналі ў перасыльны пункт. Лагер быў абнесены калючым дротам і меў невялікую ахову. Палонныя сядзелі проста на зямлі, сонца паліла няшчадна, ні дрэўца, ні падстрэшка не было. Смага была страшней за голад. Параненым дапамогу аказвалі самі ж палонныя.

Сярод палонных хадзіў слых, што ў лагеры сын Сталіна, Якаў. Многія спадзяваліся, што усёмагутны Сталін вызваліць сына, а заадно і ўсіх нас.

Апоўдні наступнага дня раптам наш самалёт спікіраваў на лагер і скінуў бомбы. Усе кінуліся на зямлю. У гэты момант чырвонаармеец са знешнасцю горца кінуўся на дрот агароджы. Кулі, кулямётныя чэргі, трапілі ў галаву ўцекача. Фантан крыві змешаны з мазгамі вырваўся з чэрапа, відовішча было не для слабанервовых. Пайшоў слых, што гэта быў Якаў.

Ці быў гэта сын Сталіна, ці нехта іншы, толкам ніхто не ведаў. Ясна было адно: у лагеры сярод ваеннапалонных знаходзіцца важная "шышка", і гэта была спроба хутчэй знішчыць, чым выратаваць нязручнага для СССР у прапагандысцкай вайне палоннага.

На наступны дзень нас пагрузілі ў таварныя вагоны і павезлі на захад. Стала зразумела, што на гэты раз я трапіў у палон зусім да іншых немцаў, надзеі на выратаванне няма. Трэба бегчы. Вагон быў стары, месцамі дошкі былі паламаныя. Я ўгаварваў суседа бегчы, але ён, зусім маладзенькі, напалоханы страшным відовішчам ўчарашніх уцёкаў, адмовіўся, але дапамог павялічыць пралом у вагоне.

Я чакаў, вось на закругленні дарогі цягнік знізіў хуткасць. Час! Сэрца калацілася ў грудзях так, што вось-вось вырвецца. Перахрысціўся і скокнуў у пясчаны адхон.

Убачыўшы маё здзіўленне, Піліп Ягоравіч заўважыў, "на фронце, брат, атэістаў не было". І працягнуў:

– Стрэлаў я не чуў, толькі пырханне і фантанчыкі пяску ад куль, мяне не зачапіла, я жывы. Кроў біла ў скроні з такой сілай, што здавалася, вырвецца вонкі. Я на волі! Днём хаваўся ў лесе, ноччу ішоў на ўсход да сваіх.

### Дадому паслалі пахавальны ліст

– У 1944-м у Польшчы быў цяжка паранены. Застаўся ляжаць на полі бою, побач у варонцы стагнаў паміраючы чырвонаармеец, але дапамагчы яму я не мог, губляў прытомнасць і колькі ляжаў, не ведаў.

Толькі за гэты час дадому паслалі пахавальны ліст. Калі прыйшоў у чарговы раз у прытомнасць, зразумеў, што сусед памёр. Мёртвым пашанцавала, для іх усё скончылася, падумаў я. І тут убачыў салдат. Яны ішлі прама на мяне, гэта былі немцы. Яны дабівалі нашых параненых. Нарэшце і я вызваліся ад невыносных пакут. Але немцы прайшлі міма. "Дабіце", – крычаў я ва ўсю моц, але з горла вырваўся толькі ціхі хрып".

Ачнуўся ў шпіталі. Наша часць наступала і падабралі мяне. Доктар сказаў, што трэба ампутаваць нагу. Я наадрэз адмовіўся, лепш памру, чым вярнуся дадому інвалідам. А ў гэты час маці штодзённа выходзіла на гасцінец і пільна ўглядалася ў бок горада. Сэрца маці спадзявалася, верыла і чакала...

І вось аднойчы на схіле дня яна ўбачыла воддаль на шашы самотную фігурку салдата, які клыпаў на мыліцах. Гэта быў яе сынок.

Піліп Ягоравіч змоўк, камяк, што падкаціў да горла, скаваў гаворку. Ён пацягнуўся рукой да кішэні, як я меркаваў, за насоўкай або папяросамі. Але дастаў, удвая складзеную, пажоўклую ад часу паперку і моўчкі працягнуў яе мне. То была пахаванка.

**Генадзь МАЛЫШАЎ,**
**Маладзечна.**

**Працяг будзе.**

НАМ ПІШУЦЬ

# Памерла мая мама

**Усе мамы, роўна як і таты, рана ці позна пакідаюць гэты свет. Гэта парадак жыцця і няма ў гэтым нічога нязвыклага або незвычайнага.**

Кожны з гэтым сутыкаецца, хаваючы сваіх бацькоў, і сутыкнецца асабіста сам, калі прыйдзе яго тэрмін. І аповед мой пра гэта.

Мама памерла па старасці на 88-м годзе жыцця. Крыху не дажыла да юбілею, не дачакалася мяне, калі я зноў прыеду на ўсё лета і правяду з ёю некалькі месяцаў у годзе ў летні перыяд, унікаючы ў яе просьбы, патрэбы і дапамагаючы, у чым неабходна, даючы тыя стасункі і ўвагу, якія становяцца самымі галоўнымі для пажылога чалавека, калі прага жыцця прытупляецца.

І яшчэ самым галоўным становіцца прысутнасць некага побач, калі ты адзінокі і твае прыяцелькі і сябры па большай частцы ўжо спачываюць. Кола людзей, з якімі ты можаш пагутарыць і якія цябе ведалі і ведаюць, звужаецца.

Калі мы бачыліся ў апошні раз летам 2014 года і вялі размовы, большай часткай мама падводзіла вынік жыцця і зводзіла гаворку да моманту зыходу. Я не перабівала яе высновы і развагі, слухала, спрабавала зразумець, ці буду гэтак жа, як і яна, адчуваць набліжэнне свайго апошняга дня.

– Мамуля, як ты сябе адчуваеш, ці хочаш перайсці за дзевяноста і жыць далей?.

Мама павяла плячыма, трохі зморшчылася і сказала:

– Не, ты ведаеш, не хачу, дастаткова, ужо не хочацца. Не купляй мне нічога, усяго хапае, не панашу.

Змоўкла, потым зноў загаварыла:

– Я пісала табе вясной, што мама мая да мяне ў сне прыходзіла кожную ноч...

– І як доўга? – спытала я.

– Больш за месяц, напэўна. І я ўсё думаю: і чаго ж гэта яна кожную ноч мяне наведвае?

– А ў які менавіта месяц? – паспрабавала я ўдакладніць.

– Сакавік-красавік, дакладна ўжо не скажу, але вясной.

– Мамуля, вось была ў цябе добрая ідэя аформіцца ў інтэрнат ветэранаў працы ў Ждановічах. Я паехала, усё табе там сфатаграфавала, пабыла ў блоку, дзе жывуць жанчыны, паразмаўляла з імі, ды з усім абслуговым персаналам пагутарыла. Агародзік табе на фота паказала, дзе можна кветкі садзіць, агурочкі, памідорчыкі, у сабесе бланкі ўзяла, частку запоўніла, а ты памяняла думкі, дома вырашыла паміраць.

Слабнеш жа, а я далёка, працую і не змагу тэрмінова прыехаць. Летам, так, магу, усе мае кліенты ў раз'ездах і мяне адпускаюць. У мяне ж падтрымкі няма, адна, адна зарплата і тая не вельмі. Што рабіць будзем?"

– Ты, дачка, за мяне не турбуйся. Адчую сябе слабай – сама жанчыну знайду, каб дапамагала.

– А дзе ж ты яе, мамуля, шукаць будзеш?

– Вось тут вартаўніком у нас працуе. Нядрэнная жанчына, размаўляю я з ёй часам...

– Не, мама, гэта не вырашэнне пытання...

### Як знайсці выйсце, каб дапамагчы нямогламу чалавеку

А якім жа можа быць рашэнне ў гэтым выпадку ў нас у Беларусі? Я пайшла ў сабес, каб штосьці высветліць. Ёсць у іх варыянт, калі прыходзяць работнікі на некалькі гадзін, некалькі разоў на тыдзень. Гэта дапамога.

Ёсць варыянт аформіцца па доглядзе. Але жанчына павінна быць не пенсійнага ўзросту і каб нідзе не працавала. Зарплата пры гэтым трохі больш за мільён. Хто ж знойдзецца з непрацуючых і непенсіянераў на такі заробак? Як на яго пражыць?

Да таго ж колькасць тых, хто мае патрэбу ў пастаянным доглядзе, нашмат перавышае колькасць кандыдатур на такую пазіцыю. І што гэта за чалавек, што ён з сябе ўяўляе? Ці ёсць у яго хоць бы невялікая падрыхтоўка, які-небудзь пройдзены трэнінг? Ён медыцынскі работнік або працуе ў сферы адукацыі, дзе ў працэсе навучання вывучаюць псіхалогію?

Хто ён, гэты ТОЙ, хто не пенсіянер, не працуе і пагаджаецца на заробак, які ледзь пакрывае месячнае харчаванне і неабходныя камунальныя выдаткі? Хто гэты ТОЙ, хто прыйдзе дагледзець за слабым і нямоглым?

Купіла газеты. Пачала вывучаць прапановы і попыт. Знайшла аб'яву адной жанчыны ў Вілейцы, якая шукала сядзелку для сваёй цяжкахворай мамы. Вырашыла прадставіцца жанчынай, якая шукае месца сядзелкі, і распытаць пра ўмовы аплаты і працы, тонкасці і нюансы.

– Вы самі разумееце, які кантынгент можа аформіцца праз сабес на такую нізкую зарплату, гаворыць жанчына на другім канцы проваду. – Выносяць з дому ўсё, не паспяваеш усачыць. Я ж цэлы дзень на працы, а маму трэба паварочваць, глядзець, каб не спрабавала ўставаць, не звалілася з ложка, яна ў мяне прышпіленая рамянямі... Сама глядзець не магу, трэба працаваць, на жыццё зарабляць і пра пенсію думаць...

Патэлефанавала па аб'яве жанчыне, якая прапаноўвае паслугі сядзелкі – 50 тысяч у гадзіну (лета 2014). Гэта калі 10 гадзін у дзень, то паўмільёна.

Можна хоць бы пяць гадзін, тады 250 тысяч. Памнажаем на пяць дзён у тыдзень і на чатыры тыдні, атрымоўваецца сума ў пяць мільёнаў – ужо якая-ніякая зарплата для прыватнага прадпрымальніка, які працуе ў такой сферы. Ёсць над чым думаць. І ёсць рэзервы ў грамадстве нават без істотнага ўдзелу дзяржавы.

### Прапанова для тых, хто хоча зарабіць

Пенсіі ў Беларусі маленькія. Як выжыць? Трое з маіх аднагрупніц па інстытуце сталі ўдовамі (гэта ўзрост 55-60 гадоў, пачатак пенсійнага жыцця на пенсію ў 2,5 мільёна і пры страце кармільца) і дзве з іх аўдавелі гэтым летам.

А ў пенсіянераў, якія ўжо слабеюць і маюць патрэбу ў пастаянным доглядзе, патрэбы зніжаюцца і нейкая колькасць пенсіі вызваляецца. Дзецям аддаць, а гэтыя дзеці не маюць магчымасці аказаць дапамогу – працаваць трэба.

Вось і поле дзейнасці для прыватнага прадпрымальніка, які мог бы арганізаваць агенцтва і прыцягнуць тых, хто толькі пайшоў на пенсію, дапамагаць слабым. Адным – да пенсіі прыбаўка, а іншым, хто мае патрэбу ў пастаяннай дапамозе, – вырашэнне пытання. І іх дзецям рукі развязаны. А ўжо даплаціць да пяці мільёнаў нармальнага заробку з улікам таго, што вызваляецца нейкая частка пенсіі таго, хто мае патрэбу ў доглядзе, родныя ці блізкія змогуць.

Работнікі сферы адукацыі, медыцыны, псіхолагі, выхавальнікі дзіцячых садоў, бібліятэкары... Ды колькі яшчэ тых, хто мог бы прыняць удзел, працуючы ў такой сферы, у якой вельмі маюць патрэбу адзінокія састарэлыя людзі. Гэта проста знаходка нават для новых працоўных месцаў людзям працаздольнага ўзросту, але самае галоўнае – вырашэнне вельмі важнага пытання дапамогі старэючым і нямоглым ў соцыуме.




**Рана ці позна бацькі сыходзяць. Можна пастарацца атрымаць як мага больш шчаслівых імгненняў разам, пакуль гэта магчыма.**

Бо не адну мяне жыццё закінула ў іншыя землі. І мая мама не адна, хто застаўся без усялякай дапамогі, калі нечакана аслаб. Ды колькі дзяцей жывуць удалечыні ад дзяцей і ў самой Беларусі і якія па розных прычынах не могуць забраць бацькоў да сябе, а тым больш быць побач, калі неабходны догляд.

За адсутнасцю досведу ў нашай краіне па арганізацыі такіх агенцтваў, дзе праводзяць двух-трохтыднёвае навучанне тых, хто ўладкаваўся б на працу, і гэтыя ж агенцтвы з'яўляюцца калектарамі попыту і прапановы на адпаведныя паслугі, то можна запазычыць досвед іншых краін, суседзяў ці далей. Цяпер з дапамогай інтэрнэту ёсць доступ да многага, не выходзячы з дому.

### Усё ў жыцці так, як трэба таму і быць

Мінулай вясной у Таронта я атрымала ліст ад сваёй даўняй прыяцелькі Святланы з Іспаніі. Яна жыве там з сынам з 1995 года. А мама яе жыла тут, у Мінску. Памёр у мамы муж, другі, з якім пражыла яна ў другім шлюбе шчаслівым жыццё 25 гадоў.

Памёр па дарозе з рынку, пайшоў на Камароўку па прадукты і не вярнуўся. Яму было за 90. Маме Святланы – менш. Яе сталі адольваць дзеці мужа ад першага шлюбу, вядома, адносна кватэры. І Святлана праз паўгода пасля яго смерці выехала цягніком з Іспаніі ў Мінск, каб дапамагчы маме.

Пакуль Святлана даехала, мама памерла, пра што яна распавяла мне ў сваім лісце: "Хавала адна, з усім прыйшлося разбірацца хутка і ў кароткі час. Сама разумееш, як яно, калі чалавек вось так нечакана сыходзіць, мне трэба паспець усё і вярнуцца своечасова, там праца і... Ехала дапамагчы, а прыехала хаваць".

Я трымала гэты ліст у руках, думала пра сваю маму, якая яшчэ была жывая, і адказала на ліст тут жа вечарам, неадкладна: "Дарагая Светачка, усёй душой спачуваю табе і суперажываю ва ўсім, што здарылася. Разумею, як цяжка табе прыйшлося. Але хачу сказаць табе тое, аб чым ты нават не думаеш. Табе трэба падзякаваць сваёй маме за тое, што яна не абцяжарыла цябе лішнімі клопатамі і не павесіла на цябе гады сваёй слабасці, бо ніхто не ведае, што б яе магло спасцігнуць. У нас жа ў Беларусі гэтая сфера зусім не развітая – догляд за састарэлымі. Ні спецыяльных дамоў у гарадах не будуюць з медыцынскім абслугоўваннем на месцы і сталовымі, ні бізнесу няма з работнікамі, якія аказваюць гэтыя паслугі. Так што скажы маме вялікі дзякуй за тое, што, пакуль ты даехала, яна ціха сышла. Яна ж разумела, што ты далёка і часта не наездзішся".

Неўзабаве ад Святланы прыйшоў адказ: "Ты ведаеш, я вельмі ўдзячная табе за твой ліст. Я зусім інакш паглядзела на маміну смерць".

## Удзячнасць

**ДЗЯКУЙ ВАМ, МАМЫ!** Дзякуй за ваша разуменне, за вашы рашэнні, за ваш ціхі своечасовы зыход. Нізкі вам паклон ад нас, далёкіх дачок і сыноў, якіх жыццё параскідала па краінах і кантынентах.

**ДЗЯКУЙ!** Дзякуй тым, хто прачытаў гэтыя радкі, хто задумаўся, хто, можа, вырашыць наладзіць гэту сферу прыватнага прадпрымальніцтва, адкрыўшы агенцтвы па ўсёй рэспубліцы, уклаўшы сродкі ў будаўніцтва спецыяльных дамоў з абслугоўваннем старых і слабых людзей з прыцягненнем іх жа зберажэнняў, хто данёс гэты артыкул да дзяржаўных структур і чыноўнікаў, якія непасрэдна могуць вырашаць гэтыя пытанні на тэрыторыі Беларусі.

Аб'яднаўшы думкі і намаганні, людзі заўсёды знойдуць шляхі вырашэння любых праблем. А гэта – адна з важных. Бо ўсе мы, усе без выключэння, раней ці пазней самі патрапім у катэгорыю слабых і састарэлых. Дык ці не лепш зараз і ўжо паклапаціцца аб сваёй будучай старасці і дапамагчы старэючым побач з намі бацькам.

Дзякуй і табе, мая мама, што ты амаль да самага зыходу была на нагах і ўсё рабіла сама, дзякуй табе, што час тваёй слабасці і патрэбы ў доглядзе быў кароткім, дзякуй, жыццё, што побач была сям'я маёй сястры і дапамога была аказана. А я не змагла здалёк прыехаць, бо разам з мамай на адным тыдні мяне пакінуў мой малодшы сын.

**Антонія ІЛЫНСКАЯ, інжынер, паэтка і даследчыца, ураджэнка Маладзечна, Канада, chayka57@yahoo.com.**

ГІСТОРЫЯ

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Час Вялікага Княства Літоўскага

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

Ведаць гісторыю мястэчка, якое з'яўляецца важнай вехай ў гісторыі нашага рэгіёна, – добрая нагода ганарыцца, што мы ёсць, не забытыя, не горшыя за іншых і мы хочам, каб нас паважалі, не перашкаджалі жыць па ўзаемаадносінах, якія склаліся спрадвеку.

Пасля перанясення Гедымінам сталіцы княства з Навагрудка ў Вільню ў 1323 годзе адзін з важных гандлёвых шляхоў, а пазней і паштовы шлях, з Менска, Лагойска ў напрамку Крэва, Вільні, Трокаў (Тракая) стаў пралягаць якраз праз Радашкавічы, Лебедзева, Маркава, Беніцу, Смаргонь, Ашмяны. Гэты Старавіленскі шлях даў штуршок для развіцця і нашай мясцовасці.

### Мы грунтуемся на досведзе продкаў

Гісторыя краю складаецца з маленькіх гісторый засценкаў, фальваркаў, хутароў, вёсак, мястэчак. Усе рысы характару, добрыя і дрэнныя якасці нашых далёкіх і блізкіх родзічаў передаюцца на генетычным узроўні са зменай пакаленняў. Гэтыя рысы ў адных выпадках выклікаюць адчуванне гонару, а ў іншых – жалю.

> **Мы як бы стаім на вяршыні піраміды, якая складаецца з лёсаў нашых прашчураў. Можа, і наш лёс залежыць ад якасці падмурка гэтай піраміды. Хто ведае…**

Бо, ведаючы сваіх продкаў, адчуваеш адказнасць за свае думкі, учынкі, за лёс дзяцей, сваёй зямлі. Наш досвед – гэта ўзятае ўсё лепшае з учынкаў і досведу мінулага зямнога шляху сваіх прадзедаў, магчымасць не зганьбіць добрую памяць сваіх родзічаў, дараваць ім нейкія дрэнныя дзеянні, лепш зразумець матывы ўчынкаў. Адчуваеш быццам бы погляд ухвалення ці асуджэння з мінулага. Напэўна, гэта можна назваць сумленнем.

Тое, што мы не зніклі ў прасторы часу, гаворыць аб тым, што здаровы сэнс землякоў перамагае, пакуль бязладдзе, якое часам існуе, а часам і проста глупства з'яўляецца асновай для захавання існасці жыхароў краю, іх адметнасці.

Паводзіны сучаснікаў амаль не розняцца ад паводзінаў далёкіх продкаў. Таму, магчыма, маючы досвед у гістарычных падзеях мінулага, можна ў аснове спраектаваць і будучыню.

### У складзе Вялікага Княства Літоўскага

Першае пісьмовае ўпамінанне пра Маркава адносіцца да 1415 года, часоў княжання Вітаўта (1392–1430 гады).

З пісьмовай крыніцы зразумела, што Маркава ў той час мела статус вялікакняжацкага сяла з дваром, што належалі ВКЛ.

Можна з вялікай доляй імавернасці сцвярджаць, што назва паселення з'явілася ад імені яго першага ўладальніка Марка. Чый гэта двор? Маркаў.

Мястэчка Маркава пазней было пазначанае на першай карце ВКЛ, выдадзенай за кошт М.К. Радзівіла ў Амстэрдаме ў 1613 годзе, назвай Markow.

Ад 1476 года мястэчка Маркава з'яўляецца цэнтрам павета і воласці. Як на той час, дык вельмі значным паселішчам.

4 верасня 1493 года з Маркава вялікі князь Аляксандр (1492–1506) пісаў пісьмо Полацкім баярам Сянькевічам.

Зімой 1495 года праездам на шляху з Масквы ў Вільню ў мястэчку спыняўся вялікі князь Аляксандр Казімір, унук Соф'і Гальшанскай.

Ехаў ён з маладой жонкай, дачкой маскоўскага цара Івана III. Сустракалі яго маршалак Станіслаў Страмілаў, князі Канстанцін Астрожскі, аднагодак Аляксандра, Іван і Васіль Глінскія і іншая знаць ВКЛ. Іх занепакоенасць была зразумелая. Аляксандр усімі магчымымі шляхамі, у тым ліку і праз вымушаны шлюб з Аленай Іванаўнай, стараўся прадухіліць пастаянную пагрозу вайны з боку Масковіі.

У 1493 годзе ўладальнікам Маркава быў Пётр Яновіч, неаднаразовы ўдзельнік пасольстваў вялікага князя Аляксандра ў Маскву. Дык не дзіва, што і сустрэча адбывалася ў яго ж уладаннях.

Ягоны сын маршалак ВКЛ Ян Пятровіч Яновіч ад 1498 года з'яўляўся Маркаўскім намеснікам. Пазней яго змянялі Ян Уладыка, Ждан Вайтковіч, Васіль Храбатовіч.

**Сяргей КАСМАЧ,**
**Маладзечна.**
**Працяг будзе.**




Рэпрадукцыя апошняга выдання 1613 года першай дакладнай карты Вялікага Княства Літоўскага, падрыхтаванай Тамашам Макоўскім на сродкі князя Мікалая Крыштофа Радзівіла ў 1603 годзе. На карце можна разгледзець каля ракі Vilia блізка размешчаныя назвы Markow, Liebiedziow і Molodeczno. Па сваёму значэнню паселішча Маркава пазначана значком з лацінскім словам "oppidum", гэта значыць – мястэчка.

КАЛЯНДАР

### 15 СТУДЗЕНЯ

**135 гадоў** назад (1881) нарадзіўся Тадэвуш Грабоўскі, польскі даследчык-славіст, які ў сваіх навуковых працах даказваў самабытнасць беларускага народа.

**90 гадоў** з часу выхаду (1926) у Вільні першага нумара сатырычнага часопіса "Маланка" (выдаваўся да 1928 года, выйшлі 43 нумары.)

**80 гадоў** з дня нараджэння Янкі Сіпакова (Івана Данілавіча, 1936 –2011), пісьменніка. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ. Працаваў у часопісе "Вожык", пасля загадваў аддзелам мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі, з 1989 – адказны сакратар часопіса "Маладосць". З 1993 загадваў рэдакцыяй літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя". Член Саюза пісьменнікаў СССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976) за кнігу паэзіі "Веча славянскіх балад".

**90 гадоў** з дня нараджэння Паўла Шубы (1926–2000), мовазнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**1994 год.** Памёр Генадзь Кахановіч, гісторык, краязнавец, літаратуразнавец. Пахаваны ў в. Насілава Маладзечанскага раёна.

### 16 СТУДЗЕНЯ

**190 гадоў** з дня нараджэння Рамуальда Траўгута (1826 – 1864), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Польшчы.

**1916 год.** Нямецкі фельдмаршал Гіндэнбург выдаў загад аб наданні беларускай мове раўназначных правоў з іншымі краёвымі мовамі на акупаваных кайзераўскімі войскамі тэрыторыях.

### 17 СТУДЗЕНЯ

**90 гадоў** назад (1926) у Мінску адбыўся Першы з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі (доўжыўся два дні).

**615 гадоў** назад (1401) у Вільні падпісаны дакумент аб заключэнні дзяржаўна-палітычнай уніі паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім (Віленска-Радамская унія).

### 18 СТУДЗЕНЯ

**80 гадоў** з дня нараджэння (1936) Васіля Сёмухі, беларускага перакладчыка.

### 19 СТУДЗЕНЯ

**90 гадоў** з дня нараджэння (1926) Віктара Сянкевіча, грамадскага дзеяча, гісторыка, журналіста, дзеяча эміграцыі ў Іспаніі, Вялікабрытаніі і ЗША. Разам з К.Акулам быў аўтарам большасці артыкулаў у ваенна-гістарычным часопісе "Зважай!", які выдаваўся ў Таронта. Цяпер жыве ў горадзе Сан-Францыска (ЗША).

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**




**Конкурс сярод чытачоў "РГ" "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя" ў разгары. Мы ўжо маем чатыры прэтэндэнты на прыз ад партнёра конкурсу – магазіна "Астравок Здароўя".**

**Пераможца атрымае ручны масажор з насадкамі.**

Рэдакцыя закрывае прыём гісторый у дзень здачы гэтага нумара ў друк, 14 студзеня. Да 22 студзеня ўсе гісторыі мы размесцім на нашым сайце **rh.by**. У гэты дзень мы апублікуем на сайце артыкул, у якім будзе форма для галасавання за гісто-

# Чытачы "РГ" натхняюць



Фота забяспечанае Барысам ПРАДУХАМ.

## Барыс Прадуха: Быць здаровым, каб здзейсніць задуманае за сваё адзінае жыццё

**Я шмат хварэў у дзяцінстве. Пасля адпачынку на моры ў 4-м класе ў мяне здарыўся збой імунітэту і ў мяне пачаўся фурункулёз, было некалькі аперацый, але нічога не дапамагала.**

І потым я пачаў займацца ў турыстычным клубе "Пілігрым" у Маладзечне: хадзіў у паходы, сплаўляўся на байдарках, вывучаў прыроду. Для гарадскога хлопчыка турызм быў проста цудам.

Аднойчы я заняў другое месца па спартыўным арыентаванні на чэмпіянаце Беларусі. Мы прайшлі па пікетах 100 кіламетраў за суткі. Потым тры дні не мог хадзіць, але досвед незабыўны. Мне падарылі разам з прызамі тоненькую кніжку пра загартоўку. З таго часу я пачаў абліваца халоднай вадой, як у кнізе.

Калі ішоў на заняткі ў 10-ю школу праз парк, то ў мяне былі спецыяльныя сцежкі. А ў нас быў вельмі прыгожы старадаўні парк да "Дажынак". Я спыняўся, глядзеў на сонца і абдымаў дрэвы, мне здавалася, што яны даюць сілы.

Потым трапіў на заняткі па ўшу да Віктара Самко і захапіўся баявымі мастацтвамі. Ва ўшу ёсць спецыяльныя практыкаванні паназапашванні ўнутранай энергіі, якой так не хапае сёння людзям. І я іх рабіў па сістэме старой даоскай школы 16-га стагоддзя .

Пры гэтым я ўжо ў старэйшых класах пацягнуўся да духоўных рэчаў.

У Маладзечне ў 90-х з'явілася суполка людзей, якія вывучалі Жывую этыку. У нас нават былі заняткі ў студыі бальных танцаў "Грацыя" ў **Дзмітрыя Хаўроніна**, дзе мы чыталі "Чайку па імю Джонатан Лівінгстон" і праз танцы вучыліся гарманічным адносінам паміж мужчынам і жанчынай, вучыліся разумець і адчуваць тонкія матэрыі.

Усё гэта адбілася на маім светапоглядзе і прывяло да таго, што я паступова змог палепшыць здароўе і ўжо да 10-га класа стаў сур'ёзна займацца кікбоксінгам ў клубе "Гладыятар", дзе мяне навучылі быць моцным.

Усё гэта прывяло да таго, што я выбраў аздараўленне сваёй прафесіяй і паступіў у Акадэмію спорту на аздараўленчы факультэт. Пасля яшчэ вучыўся Нідэрландах.

Цяпер я разумею, што мой асабісты досвед перанесеных захворванняў стаў асновай для разумення таго, што такое чалавек і як трэба жыць, каб быць здаровым і шчаслівым.

Самая вялікая праблема сучаснікаў – хранічная стомленасць. Ці не ўсе амаль увесь час адчуваюць сябе стомленымі і разгубленымі. Таму папулярны спорт, які вучыць адпачываць: ёга, лёгкі фітнес, падарожжы, гульні на паветры, пластычны танец. Людзям падабаецца добра сябе адчуваць, быць энергічнымі, стройнымі, прывабнымі. Сёння мэта не ідэальнае цела, а цела шчаслівага і задаволенага сабой чалавека.

Людзі пачынаюць пазней жыць: пазней ствараць сям'ю, нараджаць дзяцей, таму трэба расцягнуць здароўе на доўгія гады. Нават Сусветная арганізацыя аховы здароўя лічыць маладымі людзей да 40 год.

У многіх краінах пенсійны ўзрост адсунулі да 67-70 год. Таму, каб атрымаць права на пенсію, давядзецца доўга працаваць. З гэтай прычыны сучасны здаровы лад жыцця накіраваны на доўгажыхарства і якасць жыцця без рыўкоў і перагрузак. Інакш да пенсіі не дажыць.

Скажам шчыра – вядзенне здаровага ладу жыцця – прыкмета інтэлектуала, які здольны пралічыць усе магчымыя рызыкі для свайго здароўя і пазбягаць іх.

### З чаго пачаць пераход да здаровага ладу жыцця

1. Усвядоміць, наколькі гэта важна. Большасць пачынае разумець, што вялі няправільны лад жыцця толькі на аперацыйным стале.

2. Вучыцца правільнаму ладу. Чытаць кнігі, вывучаць відэаролікі, узяць урокі ў трэнера.

3. Пастарацца распрацаваць уласную сістэму. Калі і як вы робіце зарадку, калі і колькі спіце, ясце, адпачываеце, як аднаўляеце сілы.

4. Ажыццяўляйце гэтую сістэму. Удасканальвайце свае веды пра самога сябе.

5. Можаце казаць, што пачалі здаровы лад жыцця, калі шэсць месяцаў трымаліся нормаў руху, харчавання і сну.

Тады такая мадэль жыцця стане сапраўды вашай. І толькі тады вы зможаце быць упэўненыя, што будзеце жыць доўга і шчасліва і здароўя вам хопіць для рэалізацыі ўсіх мараў і планаў.

Такія высновы і такі шлях я прайшоў, каб весці здаровы лад жыцця. Цяпер я не толькі трымаюся гэтых прынцыпаў, але і дапамагаю навучыцца іншым.

**Барыс ПРАДУХА,**
**трэнер**
**па здаровым ладзе жыцця,**
**Маладзечна.**

## Васіль Лябецкі з Маладзечна: "Бягу ад старасці, бягу трэці круг вакол Зямлі"

**Хтосьці мудры сказаў "Рух – гэта жыццё, а жыццё – гэта вечны рух".**

У кожнага ёсць сваё захапленне. У адных рыбалка, паляванне, вырошчванне кветак, калекцыянаванне. У іншых, на жаль, алкаголь і цыгарэты. Для мяне захапленнем ужо 45 год з'яўляецца бег.

Маё дзяцінства прайшло ў вёсцы, дзе заўсёды хапала цяжкай працы і адзінай забавай для дзяцей у вольны час былі летам футбол, а зімой – лыжы і хакей. Ды і хакей жа быў без канькоў і з самаробнымі клюшкамі. Але менавіта складаная дзяцінства загартоўвала пакаленне маіх аднагодак.

Па-сапраўднаму бег у маё жыццё ўвайшоў падчас службы ў арміі ў Германіі. Хаця і да службы даводзілася ўдзельнічаць у спаборніцтвах па бегу і лыжах і першынстве горада. Але ў арміі, з яе строгім распарадкам дня, дысцыплінай, стаўленнем да фізічнай культуры, прымусілі займацца бегам сур'ёзна.

Пасля службы працягваў бегаць, хаця спецыфіка працы машыністам у лакаматыўным дэпо не асабліва дазваляла. Але ад захаплення не адмовіўся.

Цяпер я на пенсіі. Мне 66 год. Вяду здаровы лад жыцця. Ніколі не курыў, па святах магу дазволіць сабе бакал віна.

У мяне клапатлівая жонка, з якой мы выгадавалі двух сыноў. Яны трымаюцца майго прыкладу, сябруюць са спортам, а таксама падтрымліваюць мяне на спаборніцтвах.

Мая жонка Ірына – галоўны дыетолаг. Яна ведае, чым і калі карміць перад прабегамі. Перажывае, што раблю такія вялікія нагрузкі на трэніроўках. А я ў знак падзякі прывожу са спаборніцтваў чарговы медаль.

### Сустракаю кожны світанак бегма

Новы дзень пачынаецца з 10-15-хвілінай зарадкі, а пасля апранаюся па надвор'і і выходжу на прабежку. Летам па шашы Маладзечна-Палачаны, а зімой у парку. Дыстанцыя ад 15 да 35 кіламетраў. Усё залежыць ад таго, да якога прабегу рыхтуюся. Падчас бегу сустракаю світанак, а вясной заўважаю, як з кожным новым днём абуджаецца прырода.

Пасля прабежкі – душ і самамасаж мышцаў. У кватэры ёсць турнік і велатрэнажор. Таму нават тэлевізар гляджу не лежачы на канапе, а кручачы педалі трэнажора.

За год прабягаю дзвэры тысячы кіламетраў. Сёлета такіх кіламетраў набралася 3 029.

**Лёгка падлічыць, што за 45 год я ўжо трэці круг бягу вакол Зямлі.**

Каб зраўняць свае бегавыя магчымасці з іншымі аматарамі бегу, удзельнічаю ва ўсіх прабегах, якія праводзяць у краіне. Я наймацнейшы бягун ва ўзроставай групе 65-69 год. Маю 87 медалёў, заваяваных на розных прабегах.

У Маладзечне ёсць клуб аматараў бегу "Рэгіён", у склад якога ўваходжу я і з якім езджу на прабегі ў розныя гарады Беларусі.

Вось так і праходзіць маё жыццё – бягом ад старасці.

**Васіль ЛЯБЕЦКІ,**
**Маладзечна.**

рыю, якая спадабалася найбольш.

Такім чынам 28 студзеня мы вызначым пераможцу. А 29 студзеня запросім яго на ўручэнне падарунка.

"РГ" прымала заяўкі на конкурс ад 25 снежня. Гісторыі мы публікуем і ў газеце, і на сайце. У мінулым нумары мы распавядалі гісторыю паэта-марафонца **Аляксандра Быкава** з Мядзела. У сённяшнім нумары змяшчаем гісторыі **Аксаны Ярашонак** з Ільы і маладзечанцаў **Васіля Лябецкага** і **Барыса Прадухі**.

Калі хтосьці паспее даслаць нам на электронную пошту ці праз сацыяльныя сеткі гісторыю да 14 студзеня, яна з'явіцца ў наступным нумары.

"Рэгіянальная газета" распачала конкурс "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя" для таго, каб чытачы падштурхнулі адзін аднаго да больш здаровага і якаснага жыцця.

Каб мы парадаваліся перамогам тых, у каго атрымалася дасягнуць поспехаў у працы над дасканаласцю свайго цела.

І каб тыя, хто яшчэ не мае перамог ці толькі на пачатку шляху, зразумеў, што усё дасягальна на прыкладах сваіх землякоў.

**Аддзел інфармацыі.**
**ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".**
**УНН 600288444**



# сваёй гісторыяй здароўя



Фота забяспечанае Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

Маладзечанец Васіль Лябецкі захапляецца бегам у свае 66 год.



Аксана Ярашонак пасля таго, як скінула 30 кілаграмаў.



Аксана Ярашонак пасля родаў, яшчэ з лішнімі кілаграмамі.

## Аксана Ярашонак: **Пра дачушку Юлю, 85 кілаграмаў і маленькую чорную сукенку**

**Ішоў 2006 год. Наша сям'я чакала нараджэння першынца. Пытанне "хлопчык ці дзяўчынка?" нас мала хвалявала. Галоўнае, як казалі старэйшыя, "каб здаровенькі быў".**

Кілаграмы пачала набіраць адразу і імкліва. Таму вырашыла: раз вага усё роўна будзе расці, значыць, можна не стрымліваць сябе ў гастранамічных захапленнях і пачала есці булкі, цукеркі і печыва.

Яшчэ, як любая будучая матуля, я часта ўяўляла сваё жыццё пасля нараджэння дзіцяці.

Вось мяне, шчаслівую і прыгожую, каханы муж забірае з радзільні…

… А вось мы ўсёй сям'ёй гуляем: мужны тата, мілае дзіцятка і, вядома, стройная танклявая матуля. Мінакі глядзяць нам услед і, напэўна, думаюць: "Якая прыгожая сям'я!"…

Чэрвень. Спякота. Бязмежнае шчасце. У нас нарадзілася дачушка Юля.

Шчыра кажучы, знаходзячыся ў радзільні, я асабліва не заўважала, што мая фігура неяк змянілася: бальнічны халацік нідзе не цісну, ды і немаўлятка патрабавала шмат увагі.

Самае "цікавае" пачалося ў дзень доўгачаканай выпіскі. Муж прывёз мой "дародавы" касцюм. Апранаючы спаднічку, я не проста яе не зашпіліла, я не змагла яе дацягнуць да так званай таліі.

Карацей, разам з жаданай дачушкай я займела 30 лішніх кілаграмаў. І стала сапраўднай рубенсаўскай 85-кілаграмовай пані. А на вуліцы спяко-о-о-та!!! Вакол стройныя дзяўчаткі ў шорціках і кароткіх спаднічках!!! А я, здаецца, зараз даведваюся, што такое пасляродавая дэпрэсія!..

Паехалі з мужам абнаўляць мой гардэроб. Выбар багаты. Але што ні апрану – проста жах! А яшчэ прадавачкі розныя трапляліся: адна тактоўна параіла пашукаць большы памерчык, а другая "падтрымала":

– Вы сваю фігуру бачылі?! А жывот?! А сцёгны?!

Дзякуй табе, "добрая прадавачка"! Тады я пачала разумець, што роды – не лепшае апраўданне недасканалай фігуры. А сукенку мы тады купілі – вясёлую такую, у кветачкі, супрацьлеглую майму настрою.

Мне было прыемна, што муж любіць мае 85 кілаграмаў, але я паставіла сабе мэту: на Юлін першы дзень народзінаў апрануць сваю любімую маленькую чорную сукенку.

Пачала з простага: літрамі піла зялёную гарбату без цукру, на пэўны час адмовілася ад цукерак, печыва і іншай смакаты. Пасля пачала круціць хулахуп, качаць прэс, рабіць простыя спартыўныя практыкаванні. Часам нават ноччу. Юля не належала да таго міфічнага тыпу дзяцей, якія "паелі і спяць". Купіла прыгожыя чырвоныя кеды, у іх у добрае надвор'е хадзіла з Юляй гуляць, а пакуль яна спала, магла крыху пабегаць вакол вазка.

**Хадзіла ў лазню з парылкай, звярнулася да масажыста…**
**Кілаграмы паступова пачалі знікаць.**

Вось, напэўна, і ўсё. Дазволіць фітнес-клуб на той момант не магла: жылі ў вёсцы, не хацела надоўга пакідаць дзіця на бабуляў і тату. Жаданага выніку змагла дасягнуць, не выязджаючы з вёскі, дзякуючы простым практыкаванням, падтрымцы блізкіх і імкненню да мэты. І суседцы-масажыстцы.

Першы Юлін дзень народзінаў атрымаўся надзвычай вясёлым. Запрасілі сяброў і сваякоў. Было шмат падарункаў, пажаданняў, усмешак. А я была ў сваёй любімай маленькай чорнай сукенцы. Спадзяюся, што родныя і сябры, гледзячы на нас, думалі: "Якая прыгожая сям'я!".

**Аксана ЯРАШОНАК, Ілья, Вілейскі раён.**

НАВІНЫ

## Ашмянцы выйгралі ў астраўчан

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Гульні чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе працягнуліся 9 студзеня.

У групе "Поўнач" "Меліяратар" з Астраўца прымаў "Ашмяны". Першы тайм астраўчане выйгралі 5:2. Але выніковы лік быў усё ж на карысць ашмянцаў 12:8. Сем галоў у "Ашмянаў" забіў **Дзмітры Купнеўскі**.

"Вілія" са Смаргоні прапусціла гэты тур.

## Віляйчанку ўключылі ў склад зборнай Беларусі па плаванні

ВІЛЕЙКА

Выхаванку СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Лізавету Шчарбакову** ўключылі ў пастаянны рэзервовы склад зборнай каманды Беларусі па плаванні. Заслужыла яна гэта дзякуючы вынікам выступлення ў 2015 годзе.

Летась яна станавілася пераможцам і прызёрам першынства Беларусі, рэспубліканскай спартакіяды школьнікаў, адкрытага чэмпіянату Беларусі па плаванні. Выканала Лізавета нарматыў майстра спорту, расказаў дырэктар СДЮШАР **Сяргей Гатаулін**.

## Разыгралі Кубак дваровай лігі

МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА

У Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 8 студзеня прайшлі гульні Кубка дваровай лігі Мядзельскага раёна. Удзельнічалі шэсць камандаў. Былі яны са Свіры, Сватак, Нарачы, дзве – з Мядзела. Прыехалі госці з Маладзечна, каманда "Old School".

У выніку каманда "Зайцы" з Мядзела стала пераможцам і атрымала Кубак. Яшчэ адны мядзельчане, з "Юнацтва" – на другім месцы. Маладзечанцы з "Old School" былі трэцімі.

– Радуе тое, што турнір удалося арганізаваць на высокім узроўні і вялікая колькасць заўзятараў падтрымлівала свае каманды, – расказаў капітан ФК Union Naroch **Аляксей Раброў**. – Самае галоўнае, што людзі атрымалі задавальненне і добра бавілі час. Спадзяюся, што ў наступны раз зможам правесці турнір больш цікава.

## Мядзельскія настаўнікі лепшыя ў валейболе

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры 4 студзеня прайшоў турнір па валейболе сярод работнікаў аддзела адукацыі спорту і турызму. Удзельнічалі пяць камандаў.

Перамагла каманда, у якой гулялі настаўнікі з мядзельскіх установаў адукацыі. На другім месцы – прадстаўнікі цэнтра "Зубраня". На трэцім месцы зборная, у якой гулялі настаўнікі школ з Занарачы, Свіры, Сырмежы і Старлыг, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

## У Мядзеле стартуе чэмпіянат раёна па міні-футболе

МЯДЗЕЛ

У мясцовым фізкультурна-аздараўленчым цэнтры на 20 студзеня намечаны старт чэмпіянату раёна па міні-футболе. Гэта будзе ўжо чацверты чэмпіянат.

У ім прымуць удзел не менш за 10 камандаў, расказаў дырэктар цэнтра **Андрэй Русак**.

Згуляюць яны паміж сабой у адзін круг. Летась пераможцай чэмпіянату стала каманда цэнтра "Зубраня".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Перамагла ў спартакіядзе каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму

ВІЛЕЙКА

На Вілейшчыне падвялі вынікі круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў. Удзельнічалі ў ёй 20 камандаў. Цягам года яны змагаліся ў розных відах спорту.

Па выніках усіх відаў перамагла ў спартакіядзе каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама. На другім месцы прадстаўнікі "Зеніт-БелОМА", на трэцім – супрацоўнікі "Энергазбыту", расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота забяспечана САК "Аякс".

На Кубку Беларусі выступае Вольга Буткевіч.

АТЛЕТЫКА

# Ашмянскія атлеткі ўзялі багата ўзнагарод на Кубках Беларусі

АШМЯНЫ

**У Мінску прайшлі Кубкі Беларусі па класічным і экіпіровачным паўэрліфтынгу.**

Зборная ДЮСШ "Аякс 1" з Ашмянаў заняла першае агульнакамандное месца ў трохбор'і і ў жыме штангі лежачы па экіпіровачным паўэрліфтынгу на Кубку Беларусі сярод мужчын.

У класічным паўэрліфтынгу ў камандным заліку каманда была другой у трохбор'і і жыме штангі лежачы.

**Сярод жанчын зборная каманда па паўэрліфтынгу з Ашмянаў заваявала першае месца на Кубку Беларусі у трохбор'і. А таксама перамагла ў жыме штангі лежачы.**

У сваіх вагавых катэгорыях **Вольга Буткевіч** у трохбор'і і жыме заняла чацвертае месца. У **Аліны Чашчынай** у трохбор'і было трэцяе месца, у жыме – першае. Таксама Аліна, якой 14 год, заняла трэцяе месца ў абсалютным першынстве сярод жанчын у жыме штангі лежачы.

У **Паліны Розан** у трохбор'і чацвертае месца, у жыме – першае. **Крысціна Шлыковіч** ў трохбор'і і жыме заваявала два "срэбры".

**Надзея Мікелсонс** перамагла ў трохбор'і, у жыме заняла другое месца. На рахунку **Ксеніі Гарлуковіч** другое месца ў трохбор'і і трэцяе месца ў жыме.

Пра ўсё гэта паведаміў кіраўнік федэрацыі паўэрліфтынгу па Гродне і Гродзенскай вобласці **Міхаіл Станкевіч**.

10-гадовы **Мацвей Станкевіч** у спаборніцтвах не ўдзельнічаў: "Для Кубка я яшчэ малы", кажа. Але ён у Мінску дапамагаў камандзе. Дзеліцца:

– Усё прайшло на вышэйшым узроўні. Вельмі спадабаўся напал барацьбы. Дужа рады, што нашы жаночая і мужчынская каманды занялі першыя месцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АДЗІНАБОРСТВА

## Майстроў ушу з васьмі краін збярэ ў Маладзечне турнір памяці Дзмітрыя Гвішыяні

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечне 23-24 студзеня пройдзе адзінаццаты міжнародны кубкавы турнір па ўшу, прысвечаны памяці Дзмітрыя Гвішыяні. У ім плануецца ўдзел прадстаўнікоў васьмі краін.**

Разам з беларускімі камандамі за ўзнагароды будуць змагацца спартсмены з Арменіі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны.

Спаборніцтвы пройдуць у спартыўна-забаўляльным цэнтры.

Турнір праводзіцца ў шасці узроставых групах – юнакоў і дзяўчат 14-15 гадоў, юніёраў і юніёрак 16-17 гадоў, сярод мужчын і жанчын ад 18 гадоў. У кожнай з іх будзе не менш за шэсць вагавых катэгорый. Вынікі міжнародных спаборніцтваў будуць падводзіцца як у асабовым, так і ў камандным заліку.

Зборная Маладзечна летась стала першай сярод камандаў і ў сёлетнім турніры будзе абараняць свой тытул.

Адкрыццё спаборніцтваў адбудзецца 23 студзеня а 10 гадзіне. На наступны дзень паядынкі стартуюць у 9:00. Фінальныя сустрэчы будуць праходзіць ад 15:00 да 17:00.

Маладзечанскі турнір прысвечаны памяці курсанта Ваеннай акадэміі Беларусі Дзмітрыя Гвішыяні.

У канцы лета 1999 ён разам з аднакурснікамі вяртаўся да месца вучобы на цягніку №660 Брэст-Мінск. У дарозе цеплавоз цягніка раптоўна загарэўся, малады людзі прынялі актыўны ўдзел у тушэнні пажару і эвакуацыі пасажыраў. У барацьбе з вогненнай стыхіяй курсант Гвішыяні атрымаў моцныя апёкі, трапіў пад струмень палаючага дызельнага паліва з прычыны выбуху паліўнага бака цеплавоза.

У ноч з 31 жніўня на 1 верасня ён памёр. У далейшым быў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам "За асабістую мужнасць". Адным з захапленняў Дзмітрыя былі такі від спорту, як ушу.

**Паводле БелТА.**

# Мінскі абласны драматычны тэатр

## Наш госць – драматычны тэатр з Расіі!

**Упершыню Маладзечна наведае з гастролямі заслужаны калектыў Расійскай Федэрацыі "Вялікалукскі драматычны тэатр". Спектаклі будуць прадстаўленыя на сцэне гарадскога Палацы культуры.**

**У чацвер, 21 студзеня,** госці пакажуць знакамітую камедыю "**Тарцюф**" з сусветнай класікі, створаную па творы вялікага французскага драматурга Мальера. У спектаклі прахадзімец Тарцюф, які выдаваў сябе за праведніка божага, настолькі задурыў свайго дабрадзея, паважанага Аргона, што той ледзьве не аддаў яму ўсё сваё багацце і нават меў намер выдаць за немаладога ўжо "прарока" сваю дачку.

Пачатак спектакля ў 19:00.

**У пятніцу, 22 студзеня,** расіяне прапануюць увазе гледачоў пластычны спектакль пра каханне "**Вобразы**". Жанр пластычнага спектакля набірае ўсё большую папулярнасць у аматараў сцэнічнага мастацтва. Вось і ў спектаклі "Вобразы" герой і яго двайнік спрабуюць намаляваць карціну свайго жыцця, каб даць азначэнне паняццю "каханне". Яны па памяці перабіраюць сустрэчы з рознымі тыпамі жанчын, кожная з якіх увасабляе сабой вызначанае аблічча кахання – Гульню, Варожасць, Спакусу, Утрапёнасць, Запал, Жаль.

Пачатак спектакля ў 19:00.

**22 студзеня** юныя гледачы пазнаёмяцца з казкай знакамітага Андэрсэна "**Прынцэса на гарошыне і Свінапас**".

Пачатак спектакляў ў 10:00 і 12:00.

*Білеты – у касе тэатра.*
Кошт білетаў на дзіцячыя спектаклі:
40 000 – 50 000 рублёў;
На вячэрнія: 60 000 – 80 000 рублёў.
*Прымаюцца калектыўныя заяўкі.*
Тэлефоны для даведак і заказ білетаў:
Нам. дырэктара – **(8-0176) 75-29-16, (8-044) 568-78-83.**

УНП 600066659.

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Шчаўкунчык**" (калядная казка), *Э.Т.А.Гофман* (рус.)
17 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | | 4 | 2 | 6 | |
| | 2 | | | | | | | 5 |
| | | | 5 | 9 | | | | |
| 3 | | 6 | | 4 | | 7 | | 8 |
| | 5 | | | | | | 1 | |
| 8 | | 1 | | 5 | | 9 | | 3 |
| | | | | 6 | 9 | | | |
| 2 | | | | | | | 3 | |
| | 6 | 4 | 1 | | 3 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА

Фота Наталлі ТУР.

У час, калі па краіне разгуляўся цыклон "Даніэла", рабочыя з адкрытымі вокнамі ўсталёўвалі оптавалакно.

## РЭПЕРТУАРЫ

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16 студзеня – у 13:20
Цана білета: 20 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, сямейны "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
16 студзеня – у 15:30
17 студзеня – у 12:50
Цана білета: 35 000 – 45 000 рублёў

Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (Расія, 2015, пасля 16 год)
15 студзеня – у 17:00
18 студзеня – у 18:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал "**На грабяні хвалі**" (3D, ЗША, Германія, Кітай, 2015)
16 студзеня – у 17:20
17 студзеня – у 21:00
20 студзеня – у 18:40
Цана білета: 60 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Мафія: Гульня на выжыванне**" (3D, Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
15 студзеня – у 22:10
16 студзеня – у 19:50
17 студзеня – у 16:50
19 студзеня – у 21:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Камедыя "**Галасы вялікай краіны**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
17 студзеня – у 14:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, трылер, драма "**Выжыўшы**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
15 студзеня – у 19:10
16 студзеня – у 22:00
17, 19, 21 студзеня – у 18:00
18, 20 студзеня – у 21:00
Цана білета: 50 000 – 60 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, прыгоды, трылер "**5-я хваля**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
21 студзеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**.

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3**" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
15 студзеня – у 18:00
16 студзеня – у 16:40
17 студзеня – у 14:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, драма, прыгоды "**Выжыўшы**" (2D, ЗША, з 16 год)
15 студзеня – у 19:30
16 студзеня – у 18:10
17 студзеня – у 16:20
Цана білета: 50 000 рублёў

Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16, 17 студзеня – у 12:50
Цана білета: 25 000 рублёў

Мюзікл, камедыя, меладрама "**Галасы вялікай краіны**" (2D, Расія, пасля 16 год)
16 студзеня – у 14:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Мафія: гульня на выжыванне**" (3D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
15 студзеня – у 18:00
16 студзеня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (2D, Расія, пасля 16 год)
17 студзеня – у 19:10
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер "**На грабяні хвалі**" (3D, Германія, Кітай, пасля 16 год)
17 студзеня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Дасталі**" (Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
15 студзеня – у 18:10
16, 17 студзеня – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Небяспечнае спакушэнне**" (Мексіка, з 18 год)
15 студзеня – у 19:50
16 студзеня – у 18:10
17 студзеня – у 20:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
16, 17 студзеня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Кінадзяцінства. Мульціпатам**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
16, 17 студзеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Суперфарсаж**" (ЗША, з 16 год)
16 студзеня – у 20:00
17 студзеня – у 18:10
Цана білета: 30 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59**.

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Мяшок з сюрпрызам, ці Як лясная братва Новы год сустракала"** *(авантурная казка), К.Фралоў, А.Чэчанеў*
15 студзеня – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Афінскія вечары**" *(сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін*
15 студзеня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

## ГАРАСКОП
## 15-21 СТУДЗЕНЯ

**Авен.** Атрымлівайце асалоду ад жыцця! Спрыяльны час для пачатку новых спраў.

**Цялец.** Жывіце так, як лічыце патрэбным, і не слухайце нікога. Ваша жыццё залежыць толькі ад вас саміх.

**Блізняты.** Зірніце на сваё жыццё без ілюзій. Магчыма, для вас наступіў момант канструктыўных перамен.

**Рак.** Наладжванне дзелавых кантактаў дазволіць хутчэй вырашыць тыя праблемы, якія раней здаваліся невырашальнымі. Давярайце сваім інстынктам. У вас ёсць унікальны дар – фарміраваць верны, аб'ектыўны вобраз чалавека з першага позірку.

**Леў.** Утрымлівайце сябе ад эмацыйных усплёскаў, нават калі вам здасца, што партнёр перайшоў грань у сваіх капрызах. Даруйце яму слабасці, узамен ён падорыць вам душэўнае цяпло і клопат. Стане для вас крыніцай прыемных эмоцый і маральнай падтрымкай.

**Дзева.** У вас ёсць магчымасць рэалізаваць свае планы. Але не спяшайцеся, лёс зробіць усё сам, проста плывіце па цячэнні.

**Шалі.** Старайцеся весці сябе спакойна, больш адпачывайце, а калі ўбачыце, што абставіны перасягаюць вас, то проста адыдзіце ў бок ці адкладзіце вырашэнне пытання на больш спрыяльны перыяд.

**Скарпіён.** Перыяд спрыяльны. Вы будзеце рабіць менш памылак, а вашы ўчынкі ва ўсіх сферах будуць рацыянальнымі і ўзважанымі.

**Стралец.** Вы ніяк не можаце вырашыць пытанне з набыццём чагосьці значнага. Дык на гэтых днях, нарэшце, ваша мара ажыццявіцца. І вы будзеце задаволеныя.

**Казярог.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца ў выглядзе бяссонніцы, нервовых цікаў, прастудных захворванняў, паніжэння ці павышэння ціску, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.

**Вадалей.** У вас узнікнуць яркія пачуцці, якія можна будзе выкарыстаць для творчасці. Калі вы захочаце, то можаце стварыць штосьці цудоўнае.

**Рыбы.** Правільна размяркоўвайце час. Адну частку аддавайце рабоце, другую – адпачынку, а трэцюю – асабістым узаемаадносінам. Так вам стане лягчэй усё вырашаць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

**16 студзеня, субота**

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | -6 / -8 | -8 / -9 | -10 / -9 | -11 / -12 |
| | 740 ↗ 2 | 735 ↓ 7 | 744 ↘ 4 | 745 ↘ 3 |
| Вільня | -10 / -8 | -11 / -10 | -10 / -8 | -12 / -8 |
| | 748 ↗ 2 | 748 ↓ 4 | 753 → 4 | 755 → 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.23
Захад 17.21
Даўжыня дня 7.58

Усход 12.13
Захад 0.33
Квадра 2




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -29,2 °С у 1972 годзе
Максімальная тэмпература +6,7 °С у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,7 мм у 1968 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Памочнік прэзідэнта прапануе скараціць тэрмін дэкрэтных адпачынкаў. Што на гэты конт думаюць эканамісты, дактары, псіхолагі, маладыя мамы, выхавальнікі дзіцячых садкоў.**

ІМПРЭЗЫ

## Віляйчанка прэзентуе кнігу пра Багданава

**ВІЛЕЙКА**

Прэзентацыя кнігі віляйчанкі **Клаўдзіі Дубовік** "Багданава – вёска нашага дзяцінства" адбудзецца **22 студзеня.** Пройдзе яна ў выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея. **Пачатак – у 11 гадзін**, расказала загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Людміла Тонкавіч**.

У кнізе сабраныя эсэ Клаўдзіі Дубовік аб роднай вёсцы Багданава, што ў Куранецкім сельсавеце, і яе жыхарах.

**Аддзел інфармацыі.**

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Ад юбілейнага вечара да дабрачыннага канцэрта

**ВІЛЕЙКА**

**15 студзеня ў Палацы культуры адбудзецца юбілейны вечар. Прымеркаваны ён да 35-гадовага юбілею палаца.**

На свята запрасілі былога саліста "Песняроў" **Валерыя Скаражонка**, групу "Браты Славяне", ансамбль казацкай песні "Бацька Атаман". Таксама ў праграме творчыя выступленні працаўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый Вілейшчыны, паведаміла намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Пачатак – а 18:00. Уваход платны.

**А 17 студзеня** ў Палацы культуры ў 15:00 адбудзецца дабрачынны святочны канцэрт "Святло Ражства Хрыстова". Ён ужо стаў традыцыйным для Вілейкі.

Выступяць царкоўныя хары з Вілейка і Мінска, мастацкія калектывы ўстаноў культуры і адукацыі райцэнтра.

Перад пачаткам канцэрта на другім паверсе пройдзць выставы духоўнай літаратуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з вілейскай гімназіі №2 і цэнтра эстэтычнага выхавання.

Уваход вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**Калядаванне – адчуць праўдзівы драйв народнага гуляння (Фота)**

Я вельмі ганаруся сваёй дачкой Алёнкай Мятлюк. Сапраўды, мы – БЕЛАРУСЫ! І вельмі цудоўна, што моладзь узнаўляе нашы традыцыі і святы. Плёну і поспехаў вам у цудоўным пачыnanні. ***Таццяна.***

Малайцы і арганізатары, і ўдзельнікі!.. Вельмі добры пачын – адрадзіць традыцыі нашых продкаў… Весела і пазітыўна!.. ***Эва***.

Дзякую спадарству за тое, што запрасілі пакалядаваць з вамі! Вы малайцы!!! А досвед нажывецца, як хат 100-150 адолееце! Працягвайце гэтую справу!!! ***Алесь Галкоўскі***.

**Што расказвае былая жонка пра віляйчаніна, якога прыгаварылі да расстрэлу**

Я лічу, што людзі не маюць права забіраць жыццё ў іншага чалавека. Але ў гэтым выпадку я не бачу чалавека – нелюдзь. І пакуль будуць існаваць такія былыя жонкі, якія шкадуюць гэтых вылюдкаў, будзе і гэткая скаціна… Кожны мае права на памылку, ніхто ад іх не застрахаваны… але!!! "Следства выявіла, што на целе жанчыны было 46 udaраў кулаком. Пры гэтым усе сведкі ў адзін голас сцвярджаюць, што яны чулі 12-13 udaраў." 12-13 ударaў – гэта мала? Гэтага хопіць, каб забіць чалавека!!! За ўсё сваё жыццё гэты Генадзь забіў не толькі гэтага чалавека! Забіў жорстка!!! А вы тут лічыце, колькі ўдараў ён нанёс… сорамна і жудасна было чытаць. ***Ілона Громава***.



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якая ваша самая любімая казка?



**Сяргей Чумакоў, навучэнец:**
– З дзяцінства запомнілася казка ў вершах Пятра Яршова "Канёк Гарбунок". Сюжэт яе народны, героямі з'яўляюцца тры сыны, традыцыйна апошні з'яўляецца дурнем, з імі здараюцца розныя прыгоды. Цяпер нічога не чытаю, на гэта няма часу.



**Дар'я Касачова, навучэнка:**
– "Воўк і сямёра казлянят". Казка падабаецца тым, што зло ў выніку пакаранае. Казкі – гэта выдатны сродак адучць, што ўсё мы родам з дзяцінства.



**Андрэй Стасяловіч, станочнік:**
– Самая любімая і запамінальная казка "Пра залатую рыбку", бо на яе аснове створана шмат анекдотаў. Сваім дзецям стараюся чытаць народныя казкі, каб яны вучыліся добраму. Дарослых жа казкі нічому не навучаць, бо жыццё вельмі цяжкае і па казачных правілах не пражывеш.



**Марына Маркава, прадавец:**
– Дзеці вельмі любілі казку "Рэпка", маглі слухаць яе па некалькі разоў, не надакучвала. Маленькім вельмі карысна чытаць павучальныя кнігі, каб яны маглі разбірацца на простых прыкладах, што такое дабро, а што зло, вучыліся, як паводзіць сябе.



**Кацярына Шарык:**
– Вельмі падабаюцца казкі, у якіх ёсць коні, шмат рыцараў, прыгожых прынцэс. Нядаўна мне чыталі казку, у якой рыцар скача на кані, каб выратаваць прынцэсу. З мульцікаў падабаецца "Рапунцаль", "Маша і мядзведзь".



**Вольга Калач, у дэкрэтным адпачынку:**
– Падабаецца казка пра "Калабка". Аднак са свайго досведу магу сказаць, што сучасным дзецям больш даспадобы мульцікі. Маё дзіця вельмі любіць казку "Маша і мядзведзь". Стараемся паказваць савецкія мульцікі, бо сучасныя, на маю думку, не вучаць дзіця добраму, не маюць зразумелага сэнсу.



**Аліса Завадская, у дэкрэтным адпачынку:**
– Казка Карнея Чукоўскага "Тэлефон". Чытаю кожны вечар казкі свайму сыну, каб ён лепш спаў, за вечар магу прачытаць некалькі. Аднак яму больш даспадобы мульцікі. Стараемся паказваць савецкія, яны вучаць дабрыні, праз паводзіны герояў выхоўваюць дзіця. Заўважыла, калі дзіця глядзіць сучасных мульцікаў, становіцца больш гарэзлівае, супакоіць яго цяжэй.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№3 (1081) 15.01.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 40 . Падпісана ў друк у 9.00 14.01.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.